

*Жыве Беларусь!*

# БЕЛАРУС

Address: P. O. Box 3225 Farmingdale, NY 11735

BIELARUS / Belarusan newspaper in Free World Published by the Belarusan American Ass'n Inc. ISSN 1054-9455

№ 510 Ліпень 2005 г. Год выданьня 55

## Прэзыдэнт ЗША і дзярж-сакратар пра Беларусь

Цягам апошніх пяці-шасьці месяцаў заканадаўчая і выканаўчая ўлады ЗША дэманструюць большы інтарэс да Беларусі, чым за ўсё апошняе дзесяцігодзьдзе. За прыняцьцём Акту аб дэмакратыі ў Беларусі 2004 сьледавалі шматлікія заявы Дзярждэпартамэнту, рэзалюцыі ў ААН і Эўрапэйскіх структурах, выдзяленьне дадатковых бюджэтных сродкаў на падтрыманьне дэмакратычных працэсаў у Беларусі. Але гэтай вясной адміністрацыя Джорджа Буша малодшага літаральна перахапіла ініцыятыву ніжэйшых выканаўчых структураў і Кангрэсу, а дакладней Гэльсынскай камісіі Кангрэсу, і ўзьняла актуальнасьць беларускай праблемы на самы высокі ўзровень - прэзыдэнцкі.

Выступы ў красавіку-траўні Дзяржаўнага сакратара ЗША Кандалізы Райс і прэзыдэнта Джорджа Буша ня толькі паставілі Беларусь у кантэкст міжнароднай палітыкі ЗША, але і прадэманстравалі аксэлерацыю ў паглядах адміністрацыі на разьвіцьцё сытуацыі ў Беларусі. Ніколі раней беларускае пытаньне не ўздымалася на такім высокім узроўні, як цяпер. Ніколі раней Беларусі не разглядалася ва Ўсходнеэўрапэйскім рэгіёне без прывязкі да Расеі. Ніколі раней амэрыканская адміністрацыя не працавала так шчыльна з паўночнымі, заходнімі і паўднёвымі суседзямі Беларусі ў справе іхнай дапамогі дэмакратычным сілам Беларусі.

Аднак, нягледзячы на пэўную эвалюцыю пагляду Белага Дому і яго палітычных дарадцаў, варта заўважыць, што выступы і дзяржсакратара, і прэзыдэнта кранаюць толькі пытаньне палітычных пераменаў, змаганьня за дэмакратыю і свабоду. Культурны і ідэалягічны аспэкты гэтага змаганьня па-ранейшаму пазьбягаліся. Адміністрацыя Белага Дому па-ранейшаму разглядае пуцінскую Расею як партнэра ва ўсталяваньні дэмакратыі, нягледзячы на падзеі ва Ўкраіне, Кыргызстане і Грузіі, дзе Расея падтрымлівала антыдэмакратычныя сілы за іх прарасейскую пазыцыю. Таксама варта заўважыць, што заявы прэзыдэнта Джорджа Буша пра сытуацыю ў Беларусі рабіліся толькі ў Вашынгтоне, Латвіі й Летуве, але не ў Расеі.

Ніжэй у краналягічным парадку прыведзеныя пераклады ўсіх вясновых выступаў Кандалізы Райс і прэзыдэнта Джорджа Буша малодшага, якія кранаюць тэму Беларусі.

***Алеся СЁМУХА***

**19 красавіка 2005 году, Вашынгтон, ЗША. Брыфінг для журналістаў перад паездкай Кандалізы Райс у Маскву.**



Адказваючы на пытаньне журналіста пра запланаваную сустрэчу з прадстаўнікамі беларускай апазыцыі й адчуваньне пагрозы прэзыдэнтам Расеі Пуціным у сувязі з працаю ЗША па ўзгадаваньні дэмакратыі ў краінах сумежных з Расеяй, дзяржсакратар Кандаліза Райс сказала: "Наш адказ Расеі такі – ніхто ня выйграе ад існаваньня такой апошняй дыктатуры ў Эўропе, як рэжым Лукашэнкі ў Беларусі. Беларусь адкінутая назад з-за прыроды цяперашняга рэжыму, і яе немагчыма куды-небудзь інтэграваць. Беларускі народ заслугоўвае лепшага.

Рэфармаваная, дэмакратычная, заможная Беларусь напэўнаж будзе больш карысная для Расеі, чым для каго іншага з-за патэнцыяльных гандлёвых і эканамічных выгод, ня кажучы пра блізкасьць народаў."

Кандаліза Райс лічыць, што весьці перамовы з Масквою пра дэмакратычныя пераўтварэньні ўнутры краіны і ў дачыненьнях з суседзямі ня ёсьць безвыніковым заняткам. "У сытуацыі з Кыргызстанам, мы вельмі добра супрацоўнічалі з Расеяй праз АБСЭ", - заявіла спн. Райс. - Тая складаная сытуацыя, якая пачалася ў Кыргызстане з вулічных пратэстаў зараз набывае палітычныя формы, якія маюць патэнцыял перарасьці ў дэмакратычны працэс. І ў гэтым мы шчыльна супрацоўнічалі з Расеяй. Я спадзяюся, што гэткія адносіны станацца мадэльлю дачыненьняў у будучыні."

***

**20 красавіка 2005 году, Вільня, Летува. Размова з журналістамі пад час сустрэчы з прэзыдэнтам Летувы Валдасам Адамкусам.**

Адказваючы на пытаньне пра супрацоўніцтва ЗША і Эўразьвязу па пашырэньні дэмакратыі ў Грузіі, Украіне, Малдове і Узьбекістане і ролі Летувы ў гэтым працэсе, Кандаліза Райс сказала: "Мы, разам з Эўразьвязам, пасьпяхова дапамаглі людзям рэалізаваць іх памкненьні да свабоды. Бясспрэчна, што роля, якую нашыя сябры ў Летуве адыгралі ва Ўкраіне, вельмі важная. Летувіская дапамога прыйшла ў час, калі ўкраінская апазыцыя патрабавала дапамогі міжнародных сілаў, каб не адчуваць, што яны змагаюцца ў адзіноце з вынікамі фальсіфікаваных выбараў.

Відавочна па Грузіі прайшла дэмакратычная рэвалюцыя, і мы працягваем нашую працу там. Ёсьць і іншыя месцы, дзе грамадзянская супольнасьць павялічваецца, дзе апазыцыйныя сілы гучна заяўляюць пра зьмены ў іх грамадзтве, нават у Беларусі, якая, як я нядаўна сказала ў Расеі, сапраўды застаецца апошняй дыктатурай у цэнтры Эўропы, і надыйшоў час, каб сытуацыя ў Беларусі зьмянілася.

Мы разглядаем як пазытыўнае тое, што Трансатлянтычны Зьвяз (НАТО) перастаў гаварыць пра сваю сутнасьць і пра тое, як добра ці кепска ён працуе і пачаў працаваць на ўсталяваньне дэ-

*Працяг на бачыне 2*

## Паседжаньне Прэзыдыюму Рады БНР



У Нью Ёрку 4 чэрвеня 2005 году адбылося паседжаньне Прэзыдыюму Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, на якім абмяркоўваліся адміністратыўныя і нутраныя справы. На паседжаньні была прынятая наступная заява:

- Рада БНР выказвае падтрымку студэнтам-галадоўнікам у Жодзіне, выкінутым з навучальных установаў за апазыцыйную дзейнасьць;
- Рада БНР асуджае зьняволеньне за палітычную дзейнасьць Паўла Севярынца, Міколы Статкевіча ды іншых палітвязьняў Беларусі;
- Рада БНР выказвае абурэньне дэкрэтам Аляксандра Лукашэнкі, які забараняе няўрадавым арганізацыям ужываць у сваіх назвах словы "беларускі" і "нацыянальны".

На паседжаньні абмяркоўвалася дзеяньне Акту аб дэмакратыі ў Беларусі, які летась падпісаў прэзыдэнт ЗША Джордж Буш. Гэты дакумэнт стаў законам толькі дзякуючы вялікім намаганьням сяброў Рады БНР, якія яны прыклалі для мабілізацыі беларуска-амэрыканскай грамады ў справе прасоўваньня Акту ў Кангрэсе і Сэнаце ЗША.

Сябры Прэзыдыюму Рады БНР абмяркавалі таксама дзейнасьць Фундацыі імя П. Крэчэўскага ў Нью Ёрку і выказалі свае думкі й прапановы адносна будучыні гэтай установы.

## Беларусь пад блудам чужой палітыкі

Падзеі апошняга месяца ў Беларусі ня ўнесьлі істотных удакладненьняў у палітыку рэжыму па будучых выбарах. Стаўка на "падстаўку" Казуліна пакуль застаецца ў сіле. Гэтаму пацьвярджэньне і адпраўка на "хімію" М. Статкевіча (каб не перашкаджаў сваімі амбіцыямі). Магчыма, гэта ўзгоднена нават зь немцамі. Верагодней за ўсё, што многіх "праверaных актывістаў" вікаўскай "апазыцыі" пастараюцца ў бліжэйшы час заткнуць на "хімію" гэтак-жа, як і Статкевіча, а ўзамен выпусьцяць новых, якія будуць лямантаваць у паветра, а потым падтрымаюць Казуліна, ці каго іншага, якога яшчэ могуць вывесьці на прасцэніум. Пакуль што я схільны бачыць у падзеях мінулых месяцаў выключна маскоўскую тэхналёгію.

Добрай ілюстрацыяй да такога вываду зьяўляецца штучна раскручаны скандал вакол Саюзу палякаў Беларусі. Стварэньне міжнацыянальных канфліктаў у краінах, дзе Масква хоча ўкараніць свае інтарэсы, было і ёсьць першаснай справай у тактыцы расейскага КГБ. Найлепшы прыклад гэтай палітыкі – Каўказ. (Паглядзіце, што крамлёўцы і Лубянка вытваралі з Грузіяй). Потым – Сярэдняя Азія. У Беларусі Маскве нічога не ўдалося, хаця перапрабавалі ўсё ад фірмовага расейскага "бей жидов" да ўзбуджэньня палешукоў (успомніце такога Шэлягoвіча) і да натраўліваньня абласных гарадоў на Менск (маўляў "Минск всё забирает").

Нягледзячы на поўны правал, Масква не адмовілася ад сваёй тактыкі страўліваньня людзей і дэстабілізацыі ў грамадзтве. Для Масквы прынцыпова важна "завязаць" свайго небясьпечнага стаўленьніка Лукашэнку на які-небудзь нацыянальны канфлікт. Тады кіраваць такім сатрапам будзе проста, мэханізмы адпрацаваныя.

Другі аспэкт пытаньня ў тым, што Расея, дбаючы аб паглынаньні Беларусі, ня хоча дапусьціць добрых дачыненьняў Беларусі з Польшчаю. Але, нягледзячы на ўсе супрацьдзеяньні, беларуска-польскія дачыненьні якраз найбольш плённыя ў параўнаньні з іншымі суседзкімі краінамі (маецца на ўвазе перш за ўсё гандлёвыя дачыненьні і паміжлюдзкія адносіны).

Цяпер для Лукашэнкі настае якраз крытычны час, каб любымі спосабамі ўтрымацца ва ўладзе, правесьці выбары 2006 году ў сваю карысьць і не дапусьціць кансалідацыі супраць ягонага рэжыму. У гэтых умовах (мы бачым) рэжым робіць вытоптваньне беларускіх нацыянальных сілаў і нэўтралізацыю усіх, нават патэнцыйных антырэжымных груповак і асобаў. Ужываючы тэхна-

*Працяг на бачыне 4*

*Працяг з бачыны 1*

макратычных прынцыпаў дзеля тых людзей, якім адмоўлена ў свабодзе. І мы маем шмат канкрэтных посьпехаў у гэтай справе. Мы мусім зрабіць канкрэтныя крокі."

* * *

**20 красавіка 2005 году, Масква, Расея. Інтэрв'ю Кандалізы Райс СНН.**

Адказваючы на пытаньне журналісткі СНН Джыл Догэрты пра гатовасьць Злучаных Штатаў падтрымаць рэвалюцыю ў Беларусі ці нават у самой Расеі пасьля таго, як ЗША падтрымалі зьмены ў Грузіі, Украіне і Кыргызстане ў рэчышчы палітыкі прэзыдэнта Буша па пашырэньні дэмакратыі й свабоды, дзяржсакратар Кандаліза Райс сказала: "Мы, і прэзыдэнт гэта выказаў вельмі ясна, безумоўна маем жаданьне падтрымаць памкненьні людзей да дэмакратычнага разьвіцьця. Нас падбадзёрылі падзеі ў Грузіі, Украіне і зараз Кыргызстане. Шлях да дэмакратыі ня просты. Мы мусім памятаць, што пасьля ўсіх пераваротаў, мы ўсё роўна адказныя перад маладымі дэмакратыямі за дапамогу ў разьвіцьці дэмакратыі й дасягненьні канкрэтных вынікаў на карысьць людзей.

Але я спадзяюся, асабліва што да Беларусі, якая сапраўды застаецца апошняй дыктатурай у сэрцы Эўропы, убачыць там дэмакратычныя працэсы. У Беларусі ёсьць арганізацыі й грамадзянская супольнасьць, якія дамагаюцца ад сусьветнай супольнасьці прызнаньня і дапамогі, каб яны маглі вярнуцца ў Беларусь і працаваць для людзей Беларусі.

Такім чынам, сапраўды, мы працягваем нашую працу па пашырэньню дэмакратычных працэсаў. Прэзыдэнт настойвае, каб мы рабілі гэта праз працу з недзяржаўнымі і грамадзкімі арганізацыямі."

* * *

**4 травеня 2005 году, Вільня, Летува. Інтэрвію прэзыдэнта Джорджа Буша Латвійскаму нацыянальнаму тэлебачаньню.**

На пытаньне журналіста пра тое, што можна зрабіць наконт апошняга дыктатара ў Эўропе, кіраўніка Беларусі, прэзыдэнт Джордж Буш адказаў: "Слушнае азначэньне яго як апошняга дыктатара ў Эўропе. Мы будзем і надалей рабіць ціск на Беларусь і заклікаць вольны сьвет працаваць на тое, каб даць людзям Беларусі шанец жыць у вольным грамадзтве.

Калі я быў у Славакіі, я сустракаўся з прадстаўнікамі руху за свабоду. Я ведаю, што дзяржсакратар Кандаліза Райс таксама сустракалася з прадстаўнікамі руху за свабоду пад час ейнага візыту ў ваш рэгіён. Мы будзем працягваць гэты працэс. Прэзыдэнт Пуцін мусіць зразумець, што ў ягоных інтарэсах мець Беларусь вольнай."

* * *

**4 траўня 2005 году, Вільня, Летува. Інтэрвію прэзыдэнта Джорджа Буша Дзяржаўнаму тэлебачаньню Летувы.**

На пытаньне журналіста пра тое, што адміністрацыя плянуе рабіць у сувязі з прэзыдэнцкімі выбарамі заплянаванымі ў Беларусі на наступны год, прэзыдэнт Джордж Буш адказаў: "Перш за ўсё мы плянуем працаваць з вамі, краінамі суседкамі, вольнымі краінамі сьвету, каб настойваць на вольных выбарах і дамагчыся вольных выбараў. Беларусь – гэта апошняя дыктатура ў Эўропе. Дзяржсакратар Кандаліза Райс была ў вашым рэгіёне нядаўна з візытам, і яна ўзьняла гэтае пытаньне. Яна сустрэлася зь людзьмі, якія прысьвяцілі сябе змаганьню за свабоду ў Беларусі. Я сустракаўся зь імі ў Славакіі.

Адную з роляў, якую можа адыграць ЗША – гэта адкрыта гаварыць пра патрэбу для Беларусі быць вольнай і працаваць зь людзьмі, каб дамагчыся вольнай Беларусі. І калі надыдзе пара выбараў, пераканацца ў вольных выбарах, мець нагляд і міжнародных назіральнікаў. Ва Украіне, як вы ведаеце, гэта мела вынік. Я веру, што кожны хоча волі, і я веру, што калі сьвет працуе разам дзеля рэалізацыі гэтага, многія народы стануць вольныя."

* * *

**7 траўня 2005 году, Рыга, Латвія. Сустрэча прэзыдэнтаў краінаў Балтыі й прэзыдэнта Буша.**

Пытаньне журналіста: У сувязі з вашай нядаўняй заявай пра тое, што дэмакратычная вольная Беларусь ёсьць у інтарэсах Расеі, ці можа быць зьдзелка паміж Масквою і Вашынгтонам, паводле якой Расея паспрыяла-б не пераабраньню Лукашэнкі, а Вашынгтон у адказ падтрымаў-бы дэмакратыю ў Беларусі, але заплюшчыў вочы на далейшы ўплыў Масквы там? Або, ці гатовы Вашынгтон да бескампраміснага варыянту?

Прэзыдэнт Буш: "Гэта цікавае пытаньне – ці можна рабіць зьдзелку, якая вызначыць чыйсьці лёс. Я думаю гэта тое самае, на што мы наракалі сёньня, на лёс, што напаткаў краіны Балтыі пасьля сакрэтнай зьдзелкі паміж моцнымі дзяржавамі, зьдзелкі, якая аддала народы на ласку ўрадаў. Не, мы не заключаем таемных зьдзелак. Адзіная зьдзелка, якая на маю думку патрэбная людзям, гэта зьдзелка свабоды. Людзі мусяць мець магчымасьць выказаць сваю волю на свабодных, адкрытых і справядлівых выбарах у Беларусі.

Што да пытаньня ці адказвае гэта інтарэсам Расеі, каб непасрэдна за яе межамі існавалі дэмакратыі, адкажу, што так, гэта абсалютова ў інтарэсах Расеі мець у сяброх і суседзях дэмакратычныя краіны. Мы прывыклі да гэтага ў Амэрыцы маючы дэмакратычныя краіны на нашых межах. І гэта дабраславеньне мець за суседзяў дэмакратыі. Мы, дарэчы, не заўсёды пагаджаемся з сябрамі, што мяжуюць з намі, але мы здольныя вырашыць канфлікты мірным чынам, таму, што мы – дэмакратыі. Я і надалей буду ясна даводзіць прэзыдэнту Пуціну тое, што гэта ў інтарэсах яго краіны мець дэмакратычныя краіны на сваіх межах."

* * *

**18 траўня 2005 году, Вашынгтон, ЗША. Абед у міжнародным рэспубліканскаім інстытуце (IRI).**

Буш: "Пры садзеяньні Міжнароднага рэспубліканскага інстытуту Польшча, Летува і Латвія працуюць зь лідэрамі грамадзянскай супольнасьці ў Беларусі, каб прынесьці свабоду ў апошнюю дыктатуру Эўропы".

# Далёкая дарога да згоды

Заходнія дзяржавы ўступілі ў Другую Сусьветную вайну супраць Гітлера ў імя цывілізацыі, дэмакратыі й свабоды, але галоўным пераможцам у гэтай вайне аказаўся Сталін, які быў, бадай, горшым дыктатарам і злачынцам за Гітлера.

Ведаючы злачынствы Сталіна ў краі, ягоны саюз з Гітлерам і аказаную яму матар'яльную і прапагандысцкую падтрымку ў вайне супраць Вялікабрытаніі й Францыі, заходнія дзяржавы аднак, калі Гітлер напаў на СССР, аказалі яму ўсебаковую мілітарную і гаспадарчую дапамогу, без якой Савецкі Саюз чакала-б непазьбежная катастрофа.

Вайна аліянтаў зь немцамі была выйграная на полі бою, але прайграная за канфэранцыйнымі сталамі. Сталін перахітрыў Рузвэльта і Чэрчыля. Гэта заўважылі ў канцы вайны некаторыя палітыкі й генэралы на Захадзе. Пачуліся такія галасы, каб узброіць Вэрмахт і накіраваць яго супраць Чырвонай Арміі, і замест атамных бомбаў на Гірасіму і Нагасакі, скінуць іх на Расею.

Але заходнія мужы, выдатна ведаючы пра злачынствы Сталіна, аддалі яму Балтыйскія дзяржавы, Польшчу, Мадзярышну, Чэхаславаччыну, Румынію, Баўгарыю і Ўсходнюю Нямеччыну амаль на паўвекавую няволю.

Нядаўна дзяржавы-пераможцы сьвяткавалі 60-ю гадавіну свае перамогі над фашызмам. Каб пазьбегнуць такіх войнаў у будучым была створаная Арганізацыя Аб'еднаных Нацыяў (ААН), у якую ўвайшла ў той час 51 краіна сьвету, а сярод іх і Беларусь, як заснавальніца гэтай арганізацыі.

Ці за гэтыя 60 гадоў была дасягнутая шляхотна ідэя міру, якую ААН сабе паставіла? Факты кажуць не. Нацыі не шукаюць сапраўдных сяброўскіх адносінаў, а больш цікавяцца самавызначэньнем. У канцы XX стагодзьдзя наступіў распад Савецкага Саюзу, быў развалены Бэрлінскі мур, спыніла сваю дзейнасьць Югаслаўская Фэдэрацыя, пачалося збройнае змаганьне Расеі з Чачнёю, вайна ў Іраку і на Блізкім Усходзе.

На міжнародных спатканьнях гэтыя пытаньні парушаліся. Так, напрыклад, у 2000 годзе ў Нью Ёрку пад кіраўніцтвам ААН адбыўся саміт тысячагодзьдзя за мір ва ўсім сьвеце. На ім прысутнічала больш за 1000 рэлігійных дзеячоў. Аднак нават яны, бачачы сваіх праціўнікаў, паказалі няздольнасьць прыйсьці да згоды.

У лістападзе 2003 году на саміце Азіяцка-ціхаакеанскага эканамічнага супрацоўніцтва (АЦЭС), які праходзіў у Тайляндзе, і на якім прысутнічалі прадстаўнікі з 21 краіны, дзяржавы-ўдзельніцы ўзялі на сябе абавязак змагацца з тэрарыстычнымі групамі, каб такім чынам павысіць узровень міжнароднай бясьпекі. Але і тут гучалі галасы незадавальненьня супраць жыдоў.

Некаторыя палітыкі кажуць, што галоўнаю прычынаю непаразуменьняў на сьвеце зьяўляецца сёньня нацыянальнае пытаньне, дзе прыгнечаныя народы дамагаюцца свайго сувэрэнітэту. Сёньня дамінуючыя краіны ня хочуць ісьці на ўступкі гэтым прыгнечаным народам дзеля сваіх карысьлівых інтарэсаў.

Напрыклад, у Эўрапейскім Зьвязе (ЭЗ) у газэце "Інтэрнэйшанал Гэральд Трыбюн" было сказана: "Суперніцтва і недавер зьяўляюцца асноўнымі асаблівасьцямі эўрапейскай палітыкі. Большасьць краінаў-сябраў ЭЗ да гэтага часу лічыць немагчымым, каб адная з краінаў мела большы ўплыў і кіраўніцтва". Гэта наглядаецца сёньня ў Беларусі, над якою трымае палітычны й эканамічны кантроль Расея. У дадзены час Беларусь пазбаўленая сваёй сапраўднай дзяржаўнай і нацыянальнай незалежнасьці. Яна зьяўляецца чорнаю плямаю на мапе Эўропы.

Як раней, так і цяпер, Расея зьяўляецца галоўнаю прычынаю шматлікіх непаразуменьняў у былых савецкіх рэспубліках. Старая манія Масквы падбіваць суседнія народы і русыфікаваць іх яшчэ жыве. Нават у часы галоснасьці й перабудовы Гарбачова расейскія жыхары Эстоніі дамагаліся 14 сакавіка 1989 году забараніць у Эстоніі эстонскую мову, ачысьціць эстонскую камуністычную партыю ад нацыяналістаў і далучыць паўночна-ўсходнюю частку краіны са сталіцаю Талінам да Расейскай Фэдэрацыі.

Ня лепш выглядалі нацыянальныя й палітычныя справы ў іншых рэспубліках СССР пад кантролем Масквы, дзе да гэтага часу сядзяць, дзякуючы дыктатурам і фальшывым выбарам паслушныя лідэры "незалежных сувэрэнных дзяржаваў". Прэзыдэнт ЗША Джордж Буш падпісаў "Акт аб дэмакратыі ў Беларусі", які забараняе амэрыканскім урадавым установам выдаваць пазыкі, крэдыты ды іншую фінансавую падтрымку ўраду РБ. Выключэньне робіцца толькі для гуманітарнай дапамогі беларускім дэмакратычным партыям, няўрадавым арганізацыям. У законе ёсьць запіс, які абавязвае прэзыдэнта і Кангрэс ЗША шукаць саюзьнікаў для палітыкі санкцыяў у дачыненьні да Беларусі.

Таксама некаторыя замежныя палітыкі на Захадзе Эўропы кажуць, што беларуская апазыцыя ў краі ёсьць слабая, каб магла сама змагацца з дыктатурай, ёй патрэбная падтрымка звонку.

Дзяржаўны сакратар ЗША Кандаліза Райс у гутарцы з журналістамі назвала Беларусь "апошняй дыктатурай у Цэнтральнай Эўропе і краінаю, якую немагчыма нікуды інтэграваць". Але за Беларусь заступіўся кіраўнік расейскага зьнешнепалітычнага ведамства Сяргей Лаўроў, сказаўшы, што "дэмакратычныя прынцыпы нельга развіваць звонку". Лаўроў, які спатыкаўся ў Вільні ў красавіку сёлета са сваімі калегамі з краінаў НАТО сказаў, што "мы, натуральна, нідзе ня станем падтрымоўваць тое, што называецца зьменаю ўлады". За гэта Лаўроў атрымаў падзяку А. Лукашэнкі.

Камісія па правох чалавека ААН прыняла вострую рэзалюцыю адносна Беларусі, а адзін з аўтараў гэтага дакумэнту, спэцдакладчык Адрыян Севярын заявіў, што "ў Беларусі парушаюцца практычна ўсе правы чалавека".

А кэгэбіст У. Пуцін віншаваў Лукашэнку са "свабоднымі й дэмакратычнымі выбарамі" дэпутатаў у парлямэнт Беларусі. Гэтак зрабіў ён ва Ўкраіне, вітаючы В. Януковіча з абраньнем прэзыдэнтам краіны. Але ў рэшце праўда перамагла, і ўкраінскі народ на сапраўды свабодных і дэмакратычных выбарах прэзыдэнтам Украіны абраў В. Ючшанку. Такую волю народу Лукашэнка назваў бандытызмам.

Пасьля Ўкраіны нагляdаліся беспарадкі ў Кіргызстане і Ўзбэкістане з прычыны дыктатарскай і карупцыйнай улады сымпатыкаў Масквы. І трэба спадзявацца, што такія працэсу будуць прадаўжацца ў іншых краінах былога СССР да той пары, пакуль ня будзе ўсталяваная сапраўдная дэмакратыя без уплываў захопніцкай Масквы.

Так што на дарозе да сапраўднай дэмакратыі, свабоды й згоды ў Беларусі стаіць, як і стаяла стагодзьдзямі, злачынная Масква.

***Юры ВЕСЯЛКОЎСКІ, Англія***

# Беларусь за месяц

## Статкевіч і Севярынец сталі "хімікамі"

31 траўня скончыўся працэс у судзе Цэнтральнага раёну Менску над старшынём Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі "Народная Грамада" Міколам Статкевічам і моладзёвым лідэрам Паўлам Севярынцам. Як паведамляў у мінулым нумары "Беларус", іх вінавацілі ў "арганізацыі несанкцыянаваных вулічных акцыяў пратэсту па выніках лукашэнкаўскага кастрычніцкага рэфэрэндуму, што прайшлі 18 і 19 кастрычніка 2004 году ў Менску".

Судзьдзя Уладзімер Ясяновіч улічыў просьбу пракурора і даў па тры гады абмежаваньня волі ("хіміі"). Згодна з амністыяй тэрмін скарочаны на год. Месца, дзе будуць адбываць пакараньне яшчэ ня вызначанае. Мікола Статкевіч у інтэрвію журналістам, намякаючы на далейшыя рэпрэсіі, зазначыў, што іншыя палітыкі, магчыма, пазайздросьцяць іхняму выроку.

## Клімаў таксама

Скончыўся першы сёлетні судовы працэс і над былым дэпутатам Вярхоўнага Савету XIII скліканьня Андрэем Клімавым. Яго асудзілі на паўтары гады "хіміі" за арганізацыю ў Менску 25 сакавіка сьвяткаваньня Дня Волі. Дзяржаўны абвінаваўца заклікаў асудзіць Клімава на тры гады пазбаўленьня волі ў калёніі строгага рэжыму, адмовіўшы ў прымяненьні амністыі.

У найбліжэйшы час палітыка чакае яшчэ адзін працэс — яго вінавацяць ў паклёпе на прэзыдэнта (ч. 2, артыкулу 367 Крымінальнага Кодэксу) і абразе прэзыдэнта (арт. 368) за зьвесткі, што ўтрымліваліся ў ягоных кнігах. Паводле гэтага абвінавачваньня Клімаву пагражае пяць гадоў пазбаўленьня волі.

## Беларускія галадоўкі

Галадаць былы дэпутат Палаты прадстаўнікоў, кіраўнік дэпутацкай групы "Рэспубліка" Сяргей Скрабец пачаў 16 траўня. Знаходзячыся ў берасьцейскім сьледчым ізалятары, ён пратэставаў супраць беспадстаўнага арышту, і абвінавачаньняў на свой адрас. Яго абвінавачвалі па двух артыкулах Крымінальнага кодэксу — падрыхтоўка да злачынства і хабарніцтва (падрабязьней гл. "Беларус", №509, чэрвень).

Па апошніх зьвестках сп. Скрабец пачаў пацыху выходзіць з галадоўкі 22 чэрвеня — пачаў прымаць сокі.

Тым часам 5 чэрвеня жодзінская моладзь, што пратэставала супраць выключэньня з навучальных установ, прыпыніла галадоўку. У хлопцаў пачаліся праблемы са здароўем, яны пачалі губляць прытомнасьць. Самыя стойкія трымалі галадоўку 12 дзён. Аднак нельга сказаць, што акцыя прынесла плён. Пытаньне пра аднаўленьне на вучобе засталося нявырашаным.

## Ініцыятыва Мінадукацыі

Пры канцы траўня зьявіўся загад міністра адукацыі Аляксандра Радзькова "Аб заходах да недапушчэньні спробаў далучэньня навучэнцаў і студэнтаў у супрацьпраўную дзейнасьць палітычнага кшталту". У загадзе зазначаецца, што "па ўсіх выпадках удзелу навучэнцаў і студэнтаў у несанкцыянаваных мерапрыемствах, якія праводзяцца апазыцыйнымі арганізацыямі, праводзіць службовыя рассьледаваньні, забясьпечыць іх прынцыповую ацэнку, рабіць захады выхаваўчага ўзьдзеяньня аж да адлічэньня ва ўстаноўленым парадку зь ліку навучэнцаў і студэнтаў".

## Штрафы "Народнай волі"

Чэрвень стаў нешчасьлівым месяцам для штодзённай недзяржаўнай газэты "Народная воля". Яна прайграла пазоў лідэру Лібэральна-дэмакратычнай партыі Сяргею Гайдукевічу аб абароне яго гонару і годнасьці. Судзьдзя Ленінскага раёну Менску Любоў Валевіч прысудзіла газэце 100 млн. рублёў штрафу ($46 тыс.), старшыня ЛДП патрабаваў з выданьня ўдвая болей. Рэдакцыя газэты не пагадзілася з пастановай суду: "Мы выказваем катэгарычную нязгоду з рашэньнем судзьдзі Л. Валевіч... Увесь сьвет ведае пра сяброўства крывавага дыктатара Садама Хусэйна зь беларускай Лібэральна-дэмакратычнай партыяй на чале зь Сяргеем Гайдукевічам. Ведае і пра тыя канфідэнцыйныя пагадненьні, якія заключалі з іракцім тыранам атрымальнікі квотаў на сырую нафту. Ведае сьвет і пра так званыя адкаты дыктатару, якія пераводзіліся на спэцыяльныя рахункі, пра фантастычныя прыбыткі атрымальнікаў квотаў і іх кампаньёнаў".

У чэрвені таксама судом былі задаволеныя некалькі пазоваў рабочых аб'яднаньня "Беларуськалій" і жыхароў Клецку. Як згадваў "Беларус", "Народная воля" некалькі разоў друкавала сьпісы грамадзянаў, што далучыліся да грамадзкай ініцыятывы, узначаленай экс-рэктарам БДУ Аляксандрам Казуліным. Праз нейкі час у суд зьвярнуліся чацьвёра работнікаў "Беларуськалія" і чацьвёра жыхароў Клецку, якія заявілі, што ці не падпісваліся пад зваротам "Волі народу", ці атрымалі праблемы па месцах працы. Жыхары Салігорску захацелі па 50 млн. рублёў маральнай кампэнсацыі кожнаму, Клецку — па 5 млн. "Народную волю" пастанавілі выплаціць тром салігорцам па 2 млн. рублёў, двум жыхарам Клецку — па 3 млн. рублёў. Пазоў двух грамадзянаў быў адхілены.

## Фралоў за рэфэрэндум

Былы дэпутат Палаты прадстаўнікоў, адзін зь лідэраў апазыцыйнай парляманцкай групы "Рэспубліка" Валер Фралоў прапанаваў правесьці рэфэрэндум па чатырох пытаньнях. Генэрал прапануе вынесьці на абмеркаваньне наступныя пытаньні: зьмены ў Выбарчым кодэксе; адмена прымусовых кантрактаў і вяртаньне да заключэньня працоўных дамоваў пры прыёме на працу; усталяваньні верхняй планкі аплаты камунальных паслугаў, якая ня будзе перавышаць 25% бюджэту сям'і; а таксама прыняцьцё закону аб прадпрымальніцтве, які будзе забясьпечваць цывілізаванае вядзеньне бізнэсу.

Сп. Фралоў мяркуе да 1 ліпеня правесьці сход ініцыятыўнай групы па правядзеньні рэфэрэндуму, а да 1 жніўня зарэгістраваць яе ў Цэнтарвыбаркаме. Але хутчэй за ўсё ініцыятыва, як заўсёды, праваліцца. Ці Цэнтарвыбаркам не зарэгіструе іх, ці ня будуць знойдзены патрэбныя для стварэньня ініцыятыўнай групы дзьве тысячы чалавек.

## ЭГУ ў Вільні

У верасьні ў Вільні распачне працу Эўрапейскі гуманітарны ўнівэрсытэт. Пры канцы ліпеня мінулага году ён быў зачынены ў Менску паводле распараджэньня Міністэрства адукацыі.

9 чэрвеня ў летувіскай сталіцы адбылася інаўгурацыйная канфэрэнцыя, прысьвечаная аднаўленьню дзейнасьці ВНУ, у якой узялі ўдзел прадстаўнікі летувіскіх адукацыйных установаў, Эўрапарляманту, дыпляматычных місіяў, замежнапалітычных ведамстваў ЗША, Нямеччыны, Нідэрляндаў, Люксэмбургу. Сярод выступоўцаў быў і прэзыдэнт Летувы Валдас Адамкус, які заявіў: "Мы прысутнічаем пры народзінах унікальнага адукацыйнага праекту, які аб'яднае высілкі недзяржаўных арганізацыяў, навучальных установаў, прыватных фондаў і ўрадаў Эўразьвязу і ЗША... ЭГУ наканаваны посьпех".

У фінансаваньні дзейнасьці ЭГУ паабяцалі ўзяць удзел знакамітыя фонды, такія як "Адкрытае грамадзтва" Джорджа Сораса і Фонд МакАртураў.

## Немцы пра Беларусь

З кастрычніка радыёстанцыя "Нямецкая хваля" (Дойчэ вэле) пляную запусьціць новы праект "Беларуская хроніка" — 15 хвілінную штодзённую праграму зь Беларусі і аб Беларусі. Праект разьлічаны на тры гады і будзе прысьвечаны падзеям у Беларусі. "Беларуская хроніка" будзе выходзіць па-расейску.

## Жураўкову памілавалі

Злыя языкі сьцьвярджаюць, што кіраўнік дзяржавы выдаў указ аб памілаваньні былой кіраўнічкі справамі прэзыдэнта Галіны Жураўковай. Г. Жураўкова была ў лютым асуджаная на чатыры гады пазбаўленьня волі з канфіскацыяй маёмасьці і забаронаю цягам наступных пяці гадоў пасьля адбыцця пакараньня займаць кіраўнічыя пасады. Яе прызналі вінаватай паводле арт. 210 Крымінальнага кодэкса (крадзёж шляхам злоўжываньня службовымі паўнамоцтвамі, учыненае арганізаванай групай альбо ў вельмі вялікім памеры — больш за $3 млн.). Пасьля суду экс-кіраўнічку справаў прэзыдэнта пад варту не ўзялі, а некалькі месяцаў трымалі пад хатнім арыштам, што дало падставы жартаваць, што сп. Жураўкова зьбегла як і Тамара Вінькікава за мяжу.

## Грошы за мітынг

Жыхары Маскоўскага раёну Менску падалі заяўку на правядзеньне сходу па вылучэньні дэлегатаў на Кангрэс дэмакратычных сілаў у заплянаваным месцы (сквэр па праспэкце Газэты "Праўда"). Менгарвыканкам звыкла адмовіў, паслаўшы заяўнікаў на плошчу Бангалор, "прапанаваўшы" заключыць дамовы зь міліцыяй, гарадскім упраўленьнем Міністэрства па надзвычайных сітуацыях, камітэтам па ахове здароўя і г. д. "Копіі дакумэнтаў аб аплаце выдаткаў вам неабходна да 21 чэрвеня 2005 году накіраваць ва ўпраўленьне ідэалягічнай працы Менгарвыканкаму", — гаворыцца ў лісьце, падпісаным намесьнікам мэра сталіцы.

Грамадзкія дзеячы вырашылі не марнаваць грошай і сабраць сход прадстаўнікоў Маскоўскага раёну ў сядзібе Беларускага Народнага Фронту.

## Беднаму і вецер у вочы

Міліцыя ледзьве не сарвала сход у Мазыры дэмакратычных актывістаў па абраньні дэлегатаў на Кангрэс дэмакратычных сілаў. Увечары ў прыватны дом жыхара Мазыра, дзе праходзіла мерапрыемства з удзелам 40 чалавек, увярваліся чацьвёра міліцыянтаў зь відэакамэраю, якія заявілі, што паступіў тэлефонны званок пра бойку ў доме.

На сход у Мазыр прыехалі беларускія палітыкі — Станіслаў Шушкевіч, Сяргей Калякін, Анатоль Лябедзька. Апошні ў інтэрвію Радыё Свабода зазначыў: "Маразм крапчае. Усё пачыналася зь сяржантаў і старшынаў, а цяпер ужо тут падпалкоўнікі — чалавек 15 міліцыянтаў. Людзі, якіх мы ўтрымліваем за свае грошы, за свае падаткі, замест таго, каб змагацца са злачыннасьцю, не дапускаць, каб людзей рабавалі, забівалі, яны прыяжджаюць і перашкаджаюць людзям у прыватным доме".

## Сьмеласьць гарсавету

Менскі гарадзкі савет народных дэпутатаў на чарговай сэсіі прыняў рашэньне перайменаваць праспэкт "Газеты «Известия»" у праспэкт газэты "Звязда". Зроблена гэта па просьбе адной з найстарэйшых беларускіх газэтаў. Таксама дэпутаты прынялі рашэньне перайменаваць завулак Абутковы ў вуліцу героя Менскага падпольля Мікалая Дразда, вуліцы Перакопскую — у вуліцу Ерусалімскую, Енісейскую — у вуліцу Варвашэні. У траўні прэзыдэнт краіны сваім загадам перайменаваў вуліцы Дразда, Варвашэні, Ерусалімскую ў праспэкт Машэрава, а праспэкт Машэрава назваў праспэктам Пераможцаў.

## Расход грошай у Менску

Падлічана, што ўвесну сярэднестатыстычная сям'я ў Менску штомесячна зараблялa 878,9 тыс. руб. ($408). Выдаткі размяркоўваюцца наступным чынам. На ежу менчукі трацяць 44,2% заробкаў, на транспарт і мабільны тэлефон — 12%, на аплату жыльлёва-камунальных паслугаў — 11,4%, на вопратку, абутак — 7,3%, на адукацыю, культуру, спорт — 6,7%, на тавары культурна-бытавога ўжытку — 6%, на алькаголь і тытунь — 3,7%...

*Уласны карэспандэнт*

# 59-ы штогадавы Зьезд ЗБВБ

У суботу, 11 чэрвеня 2005 году, адбыўся 59-ы гадавы Зьезд Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі. Паседжаньне пачалося а 2-й гадзіне папаўдні ў Беларускім Культурна-Рэлігійным цэнтры на 39 Holden Rd у Лёндане.

Старшыня Галоўнай Управы ЗБВБ спн. Леля Міхалюк адкрыла зьезд прывітаньнем усіх удзельнікаў і папрасіла прысутнага а. Аляксандра Надсона памаліцца з усімі за посьпех зьезду.

Пасьля малітвы была абраная мандатная камісія ў складзе: сп. сп. Г. Пікарды, М. Баяроўскага і С. Будкевіча, якая, зьверыўшы картатэку сяброў ЗБВБ са сьпісам прысутных, дэклярала зьезд правамоцным.

У прэзыдыюм зьезду былі абраныя: сп. сп. П. Шаўцоў, М. Пачкаеў, Ясіловіч. Старшыня сступаючай Управы здала справаздачу зь дзейнасьці ЗБВБ за апошні год. Яна таксама зачытала справаздачу аб фінансавых справах арганізацыі, бо скарбнік С. Пяткевіч з-за стану здароў'я ня змог прысутнічаць. Абсалютовыюм сступаючай Управе, які прапанаваў сп. С. Будкевіч, быў падтрыманы адзінагалосна.

Пасьля гэтага пачаліся выбары новай Галоўнай Управы. Пасьля дыскусіі адноснa кандыдатаў на гэтую пасаду, Старшынём, як і раней, была абраная Леля Міхалюк. Заступнікам Старшыні стаў Мікола Пачкаеў, сакратарам і скарбнікам Сяргей Пяткевіч. Ва Управу былі абраныя: П. Шаўцоў і А. Сенька, у наглядную раду: спадары Ясіловіч, Вінаградаў і Калінін.

Новаабраная Старшыня ЗБВБ спн. Леля Міхалюк падзякавала зьезду за давер і прапанавала закончыць зьезд адсьпяваньнем нашага нацыянальнага гімну "Мы выйдзем шчыльнымі радамі".

Прыемна было бачыць на зьезьдзе шмат новых маладых сяброў.

Пачастунак быў прыгатаваны сяброўкамі арганізацыі. Пры чарцы віна час праляцеў хутка, і трэба было вяртацца да сваіх куткоў.

Жыве Беларусь!

*Сыльвэстар БУДКЕВІЧ*

# З гісторыі Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня

## ПАЧАТКІ

Беларусь, Эўропа засталіся за тысячы міляў. Пад нагамі – мост карабля. За бортам – Атлянтычны акіян. Наперадзе – Амэрыка. Для дзясяткаў тысяч беларусаў першыя крокі па яшчэ чужой зямлі пачаліся такжа сама, як для **Леаніда Галяка**:

*Выпусьцілі нас з карабля ... Каля гадзіны 8-й пачалі выпускаць у вялізарную галю і адначасова выладоўваць нашыя багажы ды ўкладаць іх у групы, паводле альфабэту. Кожны павінен быў знайсьці свае рэчы, паклікаць докераў, паказаць ім рэчы, якія тады былі зложаныя ў асобныя групкі, кожнага ўласьніка асобна. Калі ўсе рэчы былі знойдзены й зьвезены, дык трэба было знайсьці вольнага мытніка, які казаў адчыніць усе скрынкі, куфры, валізкі й тады, пераважна не заглядаючы ў рэчы, наляпліваў цэтлікі аб тым, што яны ўжо агледжаныя. Пасьля мытнага агляду, докеры перавозілі рэчы за перагародку — бліжэй да выхаду. На гэтым афіцыйныя клопаты аб прыбылых канчаліся. Кожны мог ехаць куды хоча. Пры гэтым трэба ўспомніць, што дакумэнтаў нам ніякіх не выдавалі, сказалі, што будуць нам высланыя праз пару месяцаў. У сувязі з гэтым, сярод некаторых, што ведалі, што чалавек складаецца з душы, цела й пашпарту, нагадалася некаторае занепакаеньне*.*

Пад канец 1940-х іміграцкая плынь з Эўропы рабілася ўсё паўнейшаю.

**Мікола Гарошка:**

*Кожны амаль параплаў прывозіў у Нью-ёрскую прыстань новых беларускіх эмігрантаў.* (№146)

**Уладзімер Русак:**

*Першым на эміграцыю прыехаў з Францыі Янка Ніхаёнак. Яму гэта было зрабіць найпрасьцей, бо ён быў роджаны ў Амэрыцы. Другім прыбыў Янка Станкевіч. З прычыны таго, што ягоная жонка вучылася ў Амэрыцы і мела тут сваякоў, Станкевічам тут было ўладзіцца прасьцей. Рана прыехаў і Барыс Кіт. Дарашэвіч. Гарошка. Я прыехаў, то ўжо Тулейка тут быў, прыехаў на пару тыдняў раней за нас. Ён спачатку адрабляў свой кантракт і быў ня ў Нью Ёрку, а недзе на фарме ў іншым штаце. Ён прыехаў праз* Church World Service. *Станкевіч меў памешканьне. Мяне спаткалі Гарошка зь Ніхаёнкам. Яны разам здымалі памешканьне. Хутка Янка Станкевіч купіў сабе дом, бо ягоная жонка працавала, ды яшчэ ён узяў пазычку ў сваіх дзядзькой (яны прыехалі ў Амэрыку ў «першую эміграцыю», былі моцна спалянізаваныя). Станкевіч здаваў пакоі ў гэтым доме новапрыбылым. Там жа спыняўся й Язэп Арцюх.*

Для сотняў беларусаў першым прыстанкам у Амэрыцы стаў гэты дом Янкі Станкевіча, які адыграў пэўную ролю ў базаўскай гісторыі.

**Леанід Галяк:**

*Нас спаткаў на прыстані др. Янка Станкевіч, наш праўдзівы спонсар. Мы ... у таксі паехалі на сваё памешканьне №325 Усход, на Сотай (100) вуліцы, у частцы гораду — Гарлем. ... Мы жылі там усяго два тыдні і ў гэтым часе ў гэтым доме жылі Стагановічы, Шчагловы, Барбара Вержбаловіч і іншыя. Сама Сотая вуліца рабіла жахлівае ўражаньне. Брудная, поўна ўсялякага сьмецьця, вельмі многа дзяцей. Белых тварaў амаль ня відаць, адно чорныя й пуэртарыканцы ўсялякіх колераў — ад самых чорных да зусім белых **.*

«Сьцягваньне» суродзічаў зь Нямеччыны разгортвалася ў геамэтрычнай прагрэсіі: толькі апынуўшыся на амэрыканскай зямлі новапрыбылыя тут жа станавіліся «гарантам» для суродзічаў, якія яшчэ заставаліся за акіянам. Праўда, трэба адзначыць, такая практыка пярэчыла амэрыканскаму заканадаўству.

**Міхась Белямук:**

*[Я] рызыкнуў і зрабіўся спонсарам, паслаў дваццаці пяці асобам у Нямеччыну запросіны. Эміграцыйныя ўлады мяне прылавілі на чарговых, дваццаць шостых запросінах і заявілі, што я запрашаю людзей нелегальна. Мне пагражала высылка, дэпартацыя. Аднак прыгавор загодзіл пасьля таго, як славацкі манаскі ордэн бэнэдыктынаў паручыўся за мяне і пабяцаў эміграцыйным уладам запекавацца ўсімі асобамі, якіх я запрасіў ***.*

**Нюра Русак:**

*Мы, як прыехалі, яшчэ самі на падлозе спалі, а ўжо на другі дзень «выпісалі» 12 сем'яў.. Як абуджуся сярод ночы (а гэта ў Мангэтане было) — таракана ў поўна на сьцены: пабачу гэта — і плачу.*

І вось нага беларуса ступіла на амэрыканскую зямлю. Найперш ён думае, чым сёньня павячэрае, а назаўтра ўзгадвае пра тых, што за акіянам, у Заходняй Эўропе, засталіся сваякі, сябры, аднадумцы, проста суродзічы, якім пашанцавала менш. Толькі ў чэрвені 1949 году ў ЗША 24 параплавы (якія працавалі ў гэтым праекце) перавезьлі цераз Атлянтыку ў ЗША 10 364 ДПістаў розных нацыянальнасцяў ****.

На **1949 год** у Нью Ёрк перабраліся ўжо дзясяткі беларусаў-ДПістаў, якія ўсьведамлялі, што стварэньне арганізацыі дапаможа выжываць ім самім і сьцягнуць з Эўропы сваіх паплечнікаў, з кім разам яны здолеюць перажываць гады на чужыне.

Для амэрыканскіх уладаў ні Рады БНР, ні БЦР не існуе, таму для таго, каб выступаць на арэне амэрыканскага палітычнага й грамадзкага жыцьця, трэба мець уласнаамэрыканскія арганізацыі, заснаваныя грамадзянамі краіны й афіцыйна "зачартараваныя".

Першы, падрыхтоўчы, сход адбыўся ў чэрвені ў Брукліне, дзе жыло ўжо нямала новых эмігрантаў, а **31 ліпеня** ініцыятары стварэньня арганізацыі (Мікола Гарошка, Янка Ніхаёнак, Аляксандар Орса, Уладзімер Машанскі ды інш.) сабраліся ў доме Янкі Станкевіча ў гішпанскім Гарлеме й абвесьцілі пра стварэньне *Беларускага Задзіночаньня ў Задзіночаных Гаспадарствах Амэрыкі* (пазьней гэты сход пастанавалі лічыць Першым, установчым, Кангрэсам БАЗА).

Праз год пасьля ўстаноўчага сходу БАЗА (ужо пад цяперашняй назваю) пачала існаваць як суб'ект амэрыканскага права — **26 ліпеня 1950 году** арганізацыю зарэгістраваў («інкарпараваў") губэрнатар штату Нью Ёрк. Пад чартэрам арганізацыі свае подпісы паставілі: Мікола Дарашэвіч, Янка Ніхаёнак, Аляксандар Орса, эмігрант першае хвалі Павал Бунчук і карпатарос Білый, якога папрасілі стаць адным з заснавальнікаў для таго, каб выканаць патрабаваньне амэрыканскага заканадаўства: сярод афіцыйных закладальнікаў арганізацыі мусіла быць ня менш за тры асобы амэрыканскага паддаўства, народжаныя ў ЗША. Рэч у тым, што на той момант ня здолелі знайсьці трэцяга беларуса, які адпавядаў бы ўсім пералічаным патрабаваньням (двума «адпаведнымі» былі Бунчук і Ніхаёнак).

Ужо ў першыя месяцы існаваньня арганізацыі жніўні—верасьні аддзелы БАЗА ўзьніклі ў Брукліне, Саўт Рывэры, Клīўлэндзе (№1). Такім чынам, узьнікла патрэба ў цэнтральным кіраўніцтве арганізацыяй, чым стала Галоўная Управа, якая абіралася на 2-гадавы тэрмін чарговым кангрэсам (агульным зьездам) БАЗА.

*** - Леанід Галяк. Успаміны. Кн. II. ЗША, 1983. С. 104—105.**

**** - Леанід Галяк. Op. cit. С. 105.**

***** - Пра XXII Сустрэчу // Наша слова. 1996. №41.**

****** - Бацькаўшчына. 1949. №15(59). 18 жніўня.**

## Пад блудам чужой палітыкі

***Заканчэньне з бач. 1***

лёгію "сьляпых завулкаў", калі праваку-юцца бочныя дзеяньні, апазіцыйная трасакатня і несуразіца (тыпу абсурдных "галадовак" па кватэрах), абы толькі адцягнуць увагу грамадзтва ад рэальнай нацыянальнай працы па зьмене ўлады і ад падрыхтоўкі да 2006 году.

Лукашэнку цяпер асабліва патрэбныя "ворагі з Захаду", дэстабілізатары грамадзкага спакою, карупцыянэры-абдзіральшчыкі народу, пятая калёна Брусэля і г. д., зь якой ён стане змагацца, каб "абараніць" беларускі народ. Рэжыму хацелася-б адцягнуць грамадзкую ўвагу ад пытаньняў улады, ад будучых выбараў, каб ціха за шырмай грамадзкага вэрхалу і дэмагогіі рыхтаваць чарговую "элегантную перамогу" рэжыму.

У гэтых умовах прыдаўся-б які-небудзь невялікі рэлігійны ці нацыянальны канфлікт (ізноў-жа для адцягненьня ўвагі ад выбараў і незаконнага ўдзелу ў іх Лукашэнкі). Тым часам Лукашэнка наводзіў бы парадак, караў-бы, мірыў, балбатаў, лавіў рыбку ў мутнай вадзе, набіраў-бы ачкі гаспадара становішча.

Гэтую сітуацыю добра адчула Масква і стараецца пажаць тут неспатолены свой інтарэс.

Сытуацыя тым часам банальная і мераецца звыклымі гэбоўскімі меркамі. Саюз палякаў Беларусі за кіраўніцтвам Тадэвуша Гавіна быў прыхільны да БНФ. Фронт падтрымліваў гэтую арганізацыю. Тады агентуры ўдалося выпхнуць Гавіна і паставіць у кіраўніцтва іншую асобу – Тадэвуша Кручкоўскага. Т. Кручкоўскі, стаўшы кіраўніком СПБ, адразу заявіў, што арганізацыя ня будзе падтрымліваць Беларускі Народны Фронт і апазіцыю, а стане супрацоўнічаць з уладамі Лукашэнкі ў інтарэсах палякаў.

Гэтыя заявы Т. Кручкоўскага былі надрукаваныя ў Польшчы ў польскім друку і, як ня дзіўна, не сталіся прадметам увагі палітыкаў і журналістаў. Т. Кручкоўскі рэгулярна прыяжджаў у Польшчу, браў удзел, напрыклад, у паседжаньнях Rady prezesyw Europejskiej Unii Wspylnot Polonijnych, а ў 2002 годзе быў выбраны сябрам Прэзыдыюму Rady Polonii Swiata, удзельнічаў у паседжаньнях Polonijnej Rady Konsultacyjnej у Сэнаце Польшчы і ў 2002 годзе быў нават абраны на сакратара гэтай Рады.

У сакавіку гэтага года адбыўся чарговы зьезд СПБ, на якім, відаць, нечакана для Кручкоўскага і ягоных апекуноў, на старшыню выбралі не яго, а іншую асобу. Кручкоўскі і ягоныя людзі паставілі пад сумніў законнасьць зьезду, а Мінюст Лукашэнкі не прызнаў яго правамоцнасьць і новае кіраўніцтва СПБ з-за парушэньняў Статуту і запатрабаваў правесьці паўторны зьезд.

Пачаўся скандал, які распальваецца з абодвух бакоў. Рэжым Лукашэнкі і маскоўская агентура хочуць сьпіхнуць канфлікт у нацыянальнае рэчышча, гучаць адпаведныя слоўцы, ярлыкі і тэрміналёгія, па тэлебачаньні паказваюць сумніўныя фільмы з абвінавачваньнем СПБ у падрыўной дзейнасьці разам з польскай дыпляматыяй, імкнуцца скляпаць з часткі нашых суайчыньнікаў нібыта "антыбеларускую" пятую калёну. І хто гэта імкнецца – ніштыцелі ўсяго беларускага, лукашысты, беларусафобы й падпявалы рэжыму.

Словам, скандал ствараецца па ўсіх тэхналягічных правілах маскоўскіх скандалатворцаў.

Самае дзіўнае, што шмат хто ў польскай палітыцы не разумее правакацыйнай сутнасьці і штучнасьці канфлікту і задумы яго праектантаў з Масквы, гавораць неадпаведныя словы і прапановы, якія толькі-б распалілі скандал у патрэбным Маскве і Лукашэнку рэчышчы.

Тым часам маскоўская дыпляматыя тутжа пачала дзейнічаць. Расея стала прыкідвацца найлепшым сябрам Польшчы. Расейскі кіраўнік МЗС Сяргей Лаўроў тутжа спачуваецца і размаўляе ў чатыры вочы з міністрам замежных справаў Польшчы, пасьля чаго польскі міністар заяўляе, што "Масква хоча паправы дачыненьняў з Польшчай" (газэта "Rzecz Pospolita", – 2005, 11-12 чэрвеня), што ён ня можа адкрываць дэталяў размовы і г. д.

Як гэта ўсё нам вядома з гісторыі! Сутнасьць гісторыі, аднак, у тым, што на гісторыі ніхто ня вучыцца.

Калі-б скандал сапраўды раскруцілі па маскоўскім сцэнары да ўзроўню нацыянальнага канфлікту, то пацярпелі-б Польшча, Беларусь і беларускі нацыянальна-дэмакратычны рух; выйгралі-б Лукашэнка і Масква. Але трэба разумець, што маскоўска-лукашэнкаўская афёра ў прынцыпе ня можа мець рэальнага сацыяльнага выніку, бо адсутнічае грамадзкая аснова нацыянальнага канфлікту. Яго проста не існуе нават у думках. Але прапагандысцкае ляпаньне лёзунгамі, заявамі і языкамі робіць сваю шкодную справу, бо тлуміць людзям розум, адцягвае ад рэальных задачаў адраджэньня дэмакратычнай Беларусі і ад змаганьня з рэжымам, кіруе ў бок, у сьляпы завулак, сее зерні недаверу і варожасьці паміж людзей. І ў гэтым ёсьць шкода правакацыйнай кампаніі і злачыннасьць рэжымнай палітыкі Лукашэнкі.

Як бачым, у гэтым скандале шмат што не вяжацца зь лёгікай як з Лукашэнка-маскоўскага, так і з польскага боку. Відавочна, нажаль, што некаторыя польскія палітыкі паддаюцца на правакацыі Лукашэнкі, і Масква набірае ачкі. Бо Лукашэнка, маючы свой інтэрас, таксама ўвязаўся ў чужую гульню. Калі Маскве ўдасца канчаткова папсаваць дачыненьні Беларусі з Польшчай, гэта яшчэ мацней прывяжа рэжым Лукашэнкі да Расеі і ўзмоцніць маскоўскі ўплыў на Беларусі. Ці разумеюць на захад ад Бугу, што яны прайграюць Маскве? Сказаць цяжка. Асабліва калі палітыкай кіруюць нацыянальныя эмоцыі. І хоць бура ў шклянцы вады ніколі не стане патопам, страчаны на пустое час можа стацца фатальным аргумэнтам у справе захаваньня прамаскоўскай дыктатуры на Беларусі.

Як нам, адраджэнцам, ставіцца да скандалу? Па-першае, мы не павінны ў яго ўвязвацца. Ён дрэнна пахне і абстаўлены эмоцыямі. Мы павінны тлумачыць людзям сутнасьць правакацыі і заклікаць працаваць для справы адраджэньня Беларусі і зьмены дыктатуры на дэмакратыю.

***Зянон ПАЗЬНЯК***





# Весткі й Паведамленьні

нью ёркаўскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня

Viestki j Paviedamlenni

Belarusan American Association, Inc.

✉ 166-34 Gothic Drive, Jamaica, N.Y. 11432 Сусьветнае сеціва: *www.baza-belarus.org* №7 (474)



## Чэрвеньскі сход аддзелу БАЗА

У грамадзкай залі пры Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне прайшоў 12 чэрвеня чарговы сход Нью Ёрскага аддзелу БАЗА. Напачатку старшыня аддзелу сп. Віталь Зайка азнаёміў прысутных з падзеямі ў Беларусі за мінулы месяц. Сярод іх былі ўзгаданыя засуджаньне апазыцыйных дзеячоў Міколы Статкевіча і Паўла Севярынца на 3 гады зьняволеньня з прымусоваю працаю, а таксама прысуд на паўтары гады зьняволеньня апазыцыянэру Андрэю Клімаву. Закранаўся канфлікт паміж Беларусьсю і Грузіяй вакол увядзеньня Беларусьсю візавага рэжыму, указ Лукашэнкі аб забароне ўжываньня прыназоўнікаў "беларускі", "нацыянальны" для недзяржаўных масавых сродкаў, судовая кампанія супраць газэты "Народная Воля", канфлікт вакол "Саюзу палякаў Беларусі", выпуск уладамі фальшывага нумару газэты "Глос з-над Немна". Прамоўца таксама паінфармаваў пра паездкі дэлегацыяў ад БАЗА ды іншых беларускіх арганізацыяў у Вашынгтон і пра кантакты з прадстаўнікамі амэрыканскіх уладаў у справах датычных Беларусі.

Затым з дакладам пра беларускую мову і неабходнасьць валоданьня ёю для ўсіх беларусаў выступіў малады сябар аддзелу сп. Зьміцер Валадкевіч. Ён даў кароткі агляд разьвіцьця беларускай мовы, распавёў пра намаганьні ворагаў беларушчыны прынізіць і зьнішчыць беларускую мову. Сп. З. Валадкевіч абгрунтаваў патрэбу валоданьня сваёю моваю, захоплена і эмацыйна заклікаў моладзь да штодзённага ўжываньня беларускай мовы: «У нас у генах закладзены цудоўны мэханізм. Калі мы гаворым па-беларуску кожны дзень, то мы пачынаем думаць, як сапраўдныя беларусы, і мэханізм гэты пачынае працаваць, выпрацоўваць духовую энэргію, так неабходную для нашай дзейнасьці». Выступоўцу з цікавасьцю слухалі як моладзь, так і "вэтэраны" аддзелу.

З паведамленьнем на тэму "Беларускі тэатар у часы нямецкай акупацыі" выступіў Старшыня Галоўнай Управы БАЗА сп. Антон Шукелойць. Перад пачаткам гутаркі ён папрасіў ушанаваць хвілінай цішы памяць Ніны Рагулі, былой акторкі Віцебскага тэатру, што адышла ў вечнасьць некалькі дзён назад у Нью Ёрку. Затым сп. Шукелойць распавёў пра зарганізаваньне беларускага жыцьця пад нямецкай акупацыяй, намаганьні беларускіх нацыянальных дзеячоў дапамагчы свайму народу, зрабіць палёгку ў пакутах і нястачы, нягледзячы на перашкоды і перасьлед збоку як нямецкіх акупантаў, так і савецкіх партызанаў. Поруч з справаю задавальненьня мінімальных побытавых патрэбаў беларускага насельніцтва, вялікую ролю ў стварэньні культурнага жыцьця, хай сабе й абмежаванага па магчымасьцях, адыграў беларускі тэатар. Напачатку вайны большасьць трупаў існаваўшых беларускіх тэатраў апынулася за межамі Беларусі. На гастролі выехалі тэатр імя Янкі Купалы (БДТ-1), Тэатр опэры й балету, малады Віцебскі тэатр (БДТ-2). У Менску застаўся толькі Тэатр юнага гледача, на аснове якога і была сфармаваная трупа Менскага беларускага тэатру. Савецкае кіраўніцтва, што так хутка здало Беларусь немцам, кінуўшы на волю лёсу мільёны сваіх грамадзянаў, неўзабаве аб'явіла татальную вайну на акупаваных тэрыторыях, не лічачы жыцьцяў людзей, якіх пакінулі за лініяй фронту. Цяпер кожная праява больш-менш нармальнага жыцьця лічылася "здрадаю" і "супрацоўніцтвам з акупантам".

Савецкія партызаны мэтанакіравана вынішчалі ўсіх, хто імкнуўся неяк дапамагчы людзям, арганізаваць дапамогу праз збор харчаваньня, вопраткі, хто бараніў насельніцтва перад нямецкімі ўладамі, наладжваў школьніцтва. Мэтай Саветаў было перавесьці ў лес найбольшую колькасьць людзей, стварыць немцам хаос і пекла, не лічачыся з тым, колькі мільёнаў беларусаў загінуць у гэтым пекле.

Немцы таксама бачылі ў Беларусі толькі крыніцу рэсурсаў і пляцдарм для працягу наступу на ўсход, і ўсе іхныя абяцанкі вызваленьня ад прыгнёту бальшавікоў абярнуліся яшчэ горшым прыгнётам, нават калгасы былі захаваныя дзеля лягчэйшай канфіскацыі харчоў і сыравіны.

У такіх надзвычайных абставінах, ва ўмовах падвоенай небясьпекі, беларускі актыў мусіў аднаўляць падабенства нармальнага жыцьця. Таксама не пакінулі без увагі культуру. Калі аднавілі працу беларускія тэатры, быў створаны аддзел, які дбаў аб мове, якім загадваў Янка Ліманоўскі, былы старшыня БелАППу. Асобна за адпаведнасьць дэкарацыяў, касьцюмаў, танцаў ды іншага адказваў музэйны аддзел, старшынём якога быў прамоўца, сп. А. Шукелойць. У Менску гаўляйтэрам быў прызначаны Вільгельм Кубэ, асоба супярэчлівая і неадназначная. Гэты нацыстоўскі дзеяч быў захопленым тэатралам, сам пісаў драмы, якія ставіліся ў Нямеччыне. Ён быў прыхільны да справы аднаўленьня беларускага тэатру. Шэраг беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў, у тым ліку Натальля Арсеньнева, стварылі драматычныя творы. Усе п'есы ішлі на беларускай мове. У Віцебску моладзь, якая любіла тэатральнае мастацтва, аб'ядналася і пад кіраўніцтвам некалькіх прафэсыйных актораў стварыла Віцебскі драматычны тэатар. Адною з актораў у ім была нябожчыца Ніна Рагуля, якую тады ведалі як Ніну Івіцкую (імя з дому). Яна вучылася ў Віцебскім мэдычным інстытуце, і калі інстытут вайной зачыніўся, а магчымасьці сцэны адчыніліся, Ніна Івіцкая скарыстала з гэтага, нягледзячы на пярэчаньні бацькоў, якія лічылі акторства не пасуючым да шляхоцкага гонару заняткам. Ніна грала ў "Падступнасьці й каханьні" Ф. Шылера, шэрагу іншых п'есаў. З дапамогаю тэатру людзі адчувалі, што нехта аб іх памятае, нехта дбае, і гэта дапамагала перажыць цяжкія, страшэнныя часы.

Сп. Зайка у дапаўненьне да выступу сп. Шукелойця адзначыў, што тая цяжкая і небясьпечная праца, якую вялі беларускія актывісты ў часы вайны, яшчэ належна не ацэненая беларускім грамадзтвам, і сапраўднае геройства людзей, такіх як сп. Шукелойць, атрымае ў будучым належную падзяку і месца ў гісторыі.

У разьдзеле "Рознае" з інфармацыяй аб падзеях вакол Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага і Беларускай Атакефальнай Праваслаўнай Царквы выступіў сп. Мікола Сагановіч. Са сваім бачаньнем царкоўных справаў і становішча ў БАПЦ выступіў сп. Валеры Дворнік. Прагучалі аб'явы й інфармацыі. Пасьля заканчэньня афіцыйнай часткі ўдзельнікі сходу маглі працягнуць таварыскія размовы пры пачастунках.

***Віталь ЗАЙКА***

## Наступны сход

Нью Ёрскага аддзелу БАЗА адбудзецца 9-га ліпеня 2005 году ў грамадзкай залі Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне на ***401 Атлянтык Авеню.*** Пачатак а 12-й гадзіне. Запрашаем усіх зацікаўленых.

## Уплаты ў нью ёркскі аддзел БАЗА:

**Ахвяраваньні й складкі:**

| | |
|---|---|
| Ю. Андрончык | 30 |
| Г. Езавіт | 30 |
| А. Ермаковіч | 30 |
| Ю. і Л. Зэкавы | 60 |
| К. Калесьнікава | 30 |
| Н. Кандрацкая | 30 |
| Г. Мазгавая | 30 |
| Ю. Мішук | 30 |
| К. Парніцкая | 30 |
| С. Піражок | 30 |

**Шчыры дзякуй!**

**Уплаты дасылайце на адрас:**
*Valeri Dvornik*
*172 Millspring Rd.*
*Manhasset, N.Y. 11030*
**Чэкі выпісвайце на** ***Belarusan American Association.***

## МАРШ ПАНЯВОЛЕНЫХ НАРОДАЎ

У нядзелю, 19 ліпеня, у Нью Ёрку пройдзе Марш Паняволеных Народаў, першая з падзеяў Тыдню Паняволеных Народаў, у якім традыцыйна бяруць удзел прадстаўнікі беларускай грамады Амэрыкі.

9:00 - раніцы збор удзельнікаў на 5-й Авэню і 59-й вуліцы (ля гатэлю Plaza).
10:00 - імша за Паняволеныя Народы ў Катэдры Сьвятога Патрыка.
11:00 - марш па 5-й Авэню да 72-й вуліцы.
12:00 - афіцыйнае адкрыцьцё Тыдню Паняволеных Народаў (Цэнтральны Парк).

У чацьвер, 23 ліпеня, а 11:00 пройдзе дэманстрацыя перад будынкам Аб'едналых Нацыяў, а ў нядзелю 26 ліпеня - ўрачыстае набажэнства ў лютаранскай царкве на 122 E. 88 вул. (пры Лексінтан Авэню) і цырымонія закрыцьця.

Арганізаваны Камітэтам Паняволеных Народаў, які паўстаў у 1950-я гады, Тыдзень Паняволеных Народаў, часткаю якога ёсьць гэты Марш, быў масавай імпрэзай эміграцкіх арганізацыяў з краінаў, што калісьці зьняволіў савецкі камунізм, у тым ліку Беларусі. Сёньня большасьць тых краінаў вызвалілася і здабыла свабоду.

Беларусь засталася паняволенай прамаскоўскім дыктатарскім рэжымам. Гэта край, дзе зьліквідаваная дэмакратыя, парушаюцца правы чалавека, зьнішчаецца нацыянальная культура. Таму беларуская грамада працягвае браць удзел у імпрэзах Тыдня Паняволеных Народаў, выказваючы свой пратэст.

# Новая кніга

*Аляксандар НАДСАН.* Біскуп Чэслаў Сіповіч: сьвятар і беларус. Менск, БелФранс, 2004. 300 ст.




Кніга а. Аляксандра Надсана, апостальскага візытатара для беларусаў-каталікоў замежжа, гісторыка, лінгвіста і грамадзкага дзеяча, асьвятляе жыцьцё і дзейнасьць выдатнай і незвычайнай асобы, якой даўно прысьпеў час быць ушанаванай добрым грунтоўным жыцьцяпісам. Уладыка Чэслаў Сіповіч, грэка-каталіцкі біскуп і пераканаы беларускі патрыёт, стаўся першым на працягу апошніх стагодзьдзяў беларусам, які дасягнуў гэтак значнага пасаду ў каталіцкай царкве. Душпастырскае служэньне біскупа Сіповіча прайшло ў большасьці часу далёка ад Бацькаўшчыны, але ўплыў, які яно мела на беларусаў на чужыне, захоўваецца і сёньня. У Сіповічу шчасьліва спалучыліся менавіта тыя дзьве натуры, што ўзгаданыя ў назве кнігі а. А. Надсана. Сьвятар і беларус Чэслаў Сіповіч, ягоная эпоха і абставіны жыцьця, ягоная душпастырская і нацыянальная дзейнасьць вартыя самай пільнай увагі сёнешняга чытача.

- Чэслаў Сіповіч, народжаны ў 1914 годзе на Браслаўшчыне ў беднай каталіцкай сям'і, быў старэйшым зь пяці дзяцей. Намаганьнямі бацькоў атрымаў адукацыю ў гімназіі ў Друі й вырашыў прысьвяціць сябе сьвятарскай дзейнасьці. У Друйскім кляштары Ч. Сіповіч адбыў ювэнат (навучаньне кандыдата ў манаства) пад кіраўніцтвам а. Язэпа Германовіча, і ў 1935 годзе распачаў тэалягічныя студы ў Віленскім унівэрсытэце. У 1938 годзе прыняў усходні абрад і пераехаў у Рым. У 1942 годзе атрымаў ліцэнцыят у Грэгарыянскім унівэрсытэце, а ў 1946 годзе скончыў Папскі Ўсходні Інстытут. З 1947 году працаваў у Лёндане, стварыўшы Беларускую каталіцкую місію бізантыйска-славянскага абраду ў Англіі. У 1960 годзе высьвечаны на біскупа грэка-каталіцкай царквы, у 1962 –1965 гадох браў удзел у працы сэсыяў Другога Ватыканскага Сабору. У 1963-1969 гадох быў генэралам марыянскага закону (манаскага ордэну марыянаў) і жыў у Рыме, візытуючы марыянскія кляштары па ўсім сьвеце. У 1969 годзе Сіповіч вяртаецца ў Лёндан, дзе да канца жыцьця (памёр у 1981 годзе) апекуецца духовымі патрэбамі беларусаў на чужыне, выхаваньнем дзяцей беларускіх эміґрантаў, а таксама навуковымі й выдавецкімі справамі, Беларускай бібліятэкай імя Ф. Скарыны. Біскуп Сіповіч апроч сьвятарскіх душпастырскіх абавязкаў браў удзел у стварэньні беларускіх эміґранцкіх арганізацыяў у Заходняй Эўропе, і асабліва ў Англіі, меў сталыя кантакты з Радаю БНР у асобе яе прэзыдэнта М. Абрамчыка. Сіповіч меў добрыя дачыненьні зь беларускімі сьвятарамі й ярархамі на чужыне, і мог паразумецца нават з сьвятарамі-беларусамі з Маскоўскага патрыярхату.

Нацыянальная дзейнасьць была належна ацэненая савецкімі "ворганамі", якія ўвесь час лілі бруд на Сіповіча ў кнігах і газэтах, што выходзілі ў БССР. У кнізе дэталёва апісаныя падзеі з жыцьця Сіповіча ў Вільні, ягоная асьветніцкая і нацыянальная дзейнасьць сярод беларускіх жаўнераў корпусу гэн. Андэрса ў Італіі, рэлігійны й грамадзкі закалот сярод беларусаў у ДП-лягерох Нямеччыны. Падрабязна закранутая справа Друйскага кляштару марыянаў і высылка палякамі беларускіх айцоў-марыянаў з Друі. Закранутыя таксама гісторыя стварэньня Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі (ЗБВБ), падаюцца цікавыя зьвесткі пра беларускія арганізацыі й беларускае рэлігійнае жыцьцё ў Злучаных Штатах. Біскуп Сіповіч безумоўна быў адным з найбольш вядомых і найбольш актыўных беларускіх рэлігійных дзеячаў, і ягоныя візытацыі ў беларускія асяродкі прыцягвалі людзей з самых аддаленых мясьцінаў. Уладыка Сіповіч у 1960-я гадох рабіў захады дзеля таго, каб Беларусь займела свайго біскупа-беларуса, якім меўся стаць а. Уладыслаў Чарняўскі, што быў у вуснай гутарцы ўмоўна намінаваны Папам Паўлам VI. Нажаль, як у дэталях паказана ў кнізе, дзеля інтрыгаў польскіх і савецкіх а. Чарняўскі так і не стаў біскупам.

Разам з тым праца а. Надсана ня ёсьць панэгірыкам. Аўтар не абыходзіць увагаю хібы, падкрэсьлівае, што часам аддаласьць Ч. Сіповіча закону марыянаў перашкаджала прымаць узважаныя рашэньні ў розных пытаньнях. Безумоўна, гэта толькі дадае да аб'ёмнейшага і шматбаковага ўспрыняцьця асобы Сіповіча, выяўляе яго жывым чалавекам з сумневамі й роздумамі.

Але перш за ўсё Сіповіч быў чалавекам дзеяньня. Нажаль, ня ўсе з пляяды беларускіх каталіцкіх сьвятароў першай паловы 20-га стагодзьдзя здолелі ў такі арганічны спосаб, як Уладыка Сіповіч, злучыць служэньне Богу і Беларусі. У той час, калі ва ўсіх іншых народаў сьвятарскае пакліканьне натуральна і без перашкодаў спалучаецца з патрыятызмам і замілаваньнем сваім краем, сваім народам, у беларусаў гэта не было так проста і натуральна. І ня ёсьць проста і натуральна нават сёньня.

У кнізе шырока скарыстаныя неапублікаваныя раней матар'ялы, у тым ліку ліставаньне Ч. Сіповіча і ўрыўкі з ягонага дзёньніку, дакумэнты духовых уладаў каталіцкай царквы. Прыводзяцца зьвесткі пра лёс сваякоў Уладыкі Сіповіча. З кнігі можна даведацца шматпра а. Язэпа Германовіча (Вінцука Адважнага, настаўніка Сіповіча ў Друі), а. Андрэя Цікоту, а. Фабіяна Абрантовіча, шматлікіх іншых беларускіх і датычных рэлігіі дзеячаў.

Кніга а. Аляксандра Надсана, паплечніка Ўладыкі Сіповіча і прадаўжальніка ягонай працы, ёсьць значнай без перабольшаньня падзеяй для нашай культуры, і дае шмат цікавых матар'ялаў як для гісторыкаў і дасьледнікаў рэлігіі, так і для кожнага, хто цікавіцца беларушчынай.

**Віталь ЗАЙКА**

# Беларуская мова

**даклад сп. Зьмітра ВАЛАДКЕВІЧА, прачытаны на чэрвеньскім сходзе нью ёрскага аддзелу БАЗА 12 чэрвеня 2005 году.**

Я хочу данесьці да вас наступныя словы пра нашую родную мову, каб вы лепш прыглядзеліся да таго нашага, што ёсць у нас, і пра што мы часам забываем. Таго нашага, што дае нам больш сілаў і што патрэбна для існаваньня нашай нацыі. Сілы ў нас заўжды ёсць! Толькі трэба адчыніць у нутры нас патайныя дзьверы і мы вызвалім столькі жыцьцёвай энэргіі, што нам проста і ня сьнілася. І як раз цяпер нам неабходна гэтая энэргія, калі на нашай радзіме творыцца вялікая несправядлівасьць. Дык вось, адным з галоўных ключоў, якім мы адчынім гэтыя патайныя дзьверы, і зьяўляецца нашая родная беларуская мова.

Паглядзіце на іншыя народы. Усе яны сталі на свае ногі, не зьяўляюцца адсталымі, яны гавораць на сваіх родных мовах! Гляньце на ўсход... Краіна Ўзыходзячага сонца... Як далёка яна прасунулася ў сваім разьвіцьці. Японцы маюць толькі адну дзяржаўную мову. Так і іншыя разьвітыя краіны.

А нашыя знакамітыя нацыянальныя дзеячы, як Францішак Скарына – хіба яны ўзбагачалі нашую мову толькі дзеля таго, каб мы яе забылі? Каб мы страцілі нашую нацыянальную еднасьць, нашую культуру, неад'емнаю часткай якіх і зьяўляецца нашая родная мова?

Трэба браць прыклад з такіх нашых землякоў, як Скарына. Ён зрабіў шмат для беларускай нацыі, і ягонаю моваю была беларуская. Скарына – гэта наш гонар, традыцыя, нашая гісторыя. А гэта ўсё і ёсьць нашая сіла! А сіла нам неабходная дзеля барацьбы з злачынцамі, якія жывуць у нашай краіне і забіваюць наш народ як фізічна, так і маральна. Выйграе толькі моцны. Дык давайце-ж зьбяром усе нашыя сілы. Давайце гаварыць толькі па-беларуску. А расейская мова будзе замежнаю для нас і ня будзем рабіць яе роднаю. Бо складаецца такое ўражанне, што мы з Расеі, калі гаворым па-расейску. Давайце зробім так, каб усе мы гаварылі па-беларуску. Давайце будзем ведаць нашу родную мову лепш за замежныя.

Успамінаю адзін выпадак са мною. Размаўляўся я быў з знаёмым амэрыканцам. І ён спытаў мяне: "А як па-беларуску ...?" Я дакладна ня памятаю, якое слова ён хацеў ведаць, але факт у тым, што я ня ведаў гэтага слова па беларуску, толькі па-расейску ды па-ангельску. Тады ў мяне на душы стала неяк кепска.

Я лічу, што даведвацца новае пра нашую мову – гэта вельмі цікава. А па-другое, нашыя веды – гэта зброя супраць нашага ворага. І калі ўсё скласьці разам: і нашую мову, і веды пра родную мову, і веды па гісторыі, традыцыях беларусаў, тады мы зьнішчым тое зло, якое ўладарыць на нашай Радзіме! Таму я коратка прабягуся па гісторыі роднай мовы.

Першыя пісьмовыя помнікі з рысамі беларускамоўных асаблівасьцяў зьяўляюцца у 13-м ст. ("Дамова смаленскага князя Мсьціслава з Рыгаю і Гоцкім берагам", 1229). Старабеларуская літаратурная мова сфармавалася ў сярэдзіне 15-га ст., калі беларускія рысы набылі ў пісьменнасьці значэньне літаратурнай нормы.

У часы Вялікага Княства Літоўскага беларуская мова была дзяржаўнаю на тэрыторыі Княства. Ёй карысталіся таксама і ў Польшчы, напрыклад каралі Ягайла і Жыгімонт; ёй таксама карысталіся князі Малдовы й Валахіі. На ёй былі запісаныя законы, Статуты ВКЛ. Вялікі ўнёсак у разьвіцьцё беларускай мовы зрабіў Францішак Скарына, які пераклаў на беларускую мову Біблію. Вялікі унёсак у разьвіцьцё нашай мовы зрабілі такія дзеячы, як С. Будны, В. Цяпінскі, С. Зізані, Л. Карповіч, М. Сматрыцкі ды інш.

У 16-17 ст. ст беларуская мова ўжывалася ва ўсіх відах пісьмовасьці. Аднак напрыканцы 16-га ст. адбывалася ўзмоцненая паланізацыя. Таму беларуская мова пачала мэтанакіравана выцясьняцца з дзелавой пісьменнасьці польскаю моваю. У 1696 годзе афіцыйна забаранілі ўжываньне беларускай мовы як дзяржаўнай і дзелавой. Але людзі ўжывалі яе ў вуснай гутарцы. Далучэнне Беларусі да Расеі ў 1772-1795 г. г. таксама спрыяла зьмяненьню беларускай мовы. Новая літаратурная мова пачала стварацца ў першай палове 19-га ст. на жывой гутарковай аснове. Пасьля кастрычніцкага перавароту беларускі народ атрымаў права карыстацца роднаю моваю ва ўсіх сферах дзяржаўнасьці й культуры. Літаратурная беларуская мова ў працэсе свайго развіцьця сынтэзавала важнейшыя рысы большай часткі беларускіх гаворак. А што было далей, вы ведаеце? Яна пацярпела шмат уціску з боку камуністычных уладаў. Гэтыя рэпрэсіі даходзілі да таго, што фактычна яе забаранялі выкарыстоўваць. Нягледзячы на гэта, яна жыла. Жыла ў тых беларусах, якія не спалохаліся дзяржаўнага прыгнёту ды НКВДыстаў і КГБэшнікаў. Далей, пачынаючы дзесьці з 80-х гадоў уціск ворагаў беларускай мовы прыняў іншую форму. Напрыклад, пачалі зьяўляцца розныя тэорыі, пабудаваныя на хлусьні. Адныя даказвалі, што нашая мова дрэнна ўплывае на галасавыя зьвязкі, другія казалі – на інтэлект і г. д. Ужываліся розныя прыёмы ўзьдзеяньня на беларускі народ: праз тэлебачаньне, радыё, газэты. Нават зараз ёсьць беларусы, якія ходзяць па беларускіх вуліцах і ня ведаюць, што ім хлусяць, ім плююць у твар. Яны не заўважаюць гэтага. Такім людзям патрэбная дапамога. Трэба іх навучыць, даць веды і не баяцца ціску з лукашэнкавага боку . Чаму гэта ня можам быць мы? Мы будзем вучыць нашую мову, затым пачнем навучаць беларускай мовы тых, хто ў гэтым мае патрэбу. Сіла – ў праўдзе. Веды – гэта сіла. І сіла заўжды жыве ў нас. Нашая родная мова – гэта сіла. І гэту сілу мы можам выкарыстоўваць ня толькі ў барацьбе з таталітарным рыжымам, але і ў штодзённым жыцьці. Мы пазбудземся нястачы, якая пазбаўляе нас сілы. А сілы нам вельмі не хапае сёньня. Яе не хапае кожнаму беларусу, які жыве у Беларусі ці ў замежжы. Калі мы будзем ведаць родную мову, тады мы адчуем нашую нацыянальную годнасьць. Мы адчуем, што ёсць такая нацыя, беларусы! Ёсць мы! Мы адчуем нашую еднасьць, зьбяромся і пакажам ўсяму сьвету, хто ёсць мы! Чаму мы ня лепшыя за Японію? Чаму мы ня лепшыя за Нямеччыну альбо Амэрыку? Ды ў кожным з нас ёсць усё, каб быць ня горшымі за іншых! Мы можам быць нават лепшымі за амэрыканцаў ці японцаў. Беларусь можа быць лепшаю за Японію ды Амэрыку! Нам трэба толькі нашая родная мова! Мы павінны вывучаць яе!

Ня трэба, каб мы гаварылі іншаземцам, што мы з Расеі. Давайце пакажам ім, што ёсць краіна Беларусь. Ёсць моцная краіна якая мае усё, каб быць на ўзроўні іншых дзяржаваў. У яе ёсць усе шанцы перагнаць іншыя краіны. У нас ёсць свая родная мова. Ёсць незалежнасьць! Дык навошта нам выкарыстоўваць у зносінах расейскую мову? Нам не патрэбная яна! Мы – беларусы!!! Мы маем уласную мову! І яна нашая, родная... І мы моцны народ, моцная нацыя! У нас, беларусаў, у генах закладзены той цудоўны механізм, што калі мы гаворым па-беларуску кожны дзень, то ён пачынае працаваць, вырабляць энэргію, неабходную для нашай дзейнасьці. Тады мы пачынаем думаць, як сапраўдныя беларусы. Мы тады ўжо не расейцы і не амэрыканцы. І кожны з нас ня горшы за расейца, японца ці амэрыканца.

Давайце-ж вывучаць і ведаць нашу родную беларускую мову!

# Нашая фанатэка

***«Guda» – «Ігры багоў», Мн., 2005, «БМAgroup»***




Нярэдка ў друку паўстаюць спрэчкі: ці ёсьць ён у нас – беларускі шоў-бізнэс? Ведаючы, што посьпех кожнага бізнэсу наўпрост залежыць ад укладзеных у яго грошай, то пэрспэктыва беларускага шоў-бізнэсу выглядае змрочна, бо капіталісты беларускія прасякнуты трывалым антыбеларускім духам: ніхто не сыпле зярняткі на сваё поле, але з ачмурэлай самаадданасьцю засейвае чужое (закон-жа гэтых працэсаў ніяк не рэгулюе). Усе наезды чужых самаробных зорак пазначаны знакам падтрымкі тутэйшых фірм, фірмачак і заводзікаў.

(Чаму я так зьдзекліва пра іх? Ды а ці-ж можна з павагай пісаць пра самагубцаў, якія фатальна працуюць на самавынішчэньне).

Дык на чым-жа трымаецца беларускі шоў-бізнэс, калі толькі на дысках славутага дуэту «A&K» неяк вылузаўся наш прамысловы гігант «БелАЗ» ды яшчэ гарэлачная кампанія «BelPI» падтрымала некалькі гуртоў («Ulis», «Крамбамбуля», «P.L.A.N.», «Partyzone», «:Б:Н:»)?

А выдаць альбом – гэта-ж яшчэ толькі палова справы. Каб было што выдаваць, трэба яшчэ фанансава адолець студыйныя выдаткі. Хто іх фінансуе? Прызнацца, і тут усё трымаецца на энтузіязьме і таленьце: запісаць бліскучы альбом «Вясна красна» гурту «ЯR», напрыклад, дапамагла перамога на фэстывалі «Ethnosfera» ў Польшчы, а «Partyzone» свой другі альбом «Сьмерці няма» (2005) запісваў яшчэ за лік свайго Grand Prix-2002 на «Басовішчы».

Скажу шчыра, прыватная ініцыятыва («Boutique Kamila», лэйблы «БМAgroup» і «Prynamsi Records») гарантуе хоць і прамысловыя, але сьціплыя міні-тыражыкі да 1000 асобнікаў, якія ў цывілізаваным сьвеце лічацца ўсяго толькі прома-эдыцыяй. Балазе, у каталёгах такіх энтузіястаў часам налічваецца ўжо да паўсотні разнастайных пунктаў. Гэткім шляхам ужо сотні тысячаў аматараў БЕЛАРУСКАЙ музыкі ва ўсім сьвеце здольныя мець і маюць хоць пару-тройку ўзораў гэтага кшталту.

З пэўнага часу ў гэты працэс падключылася й беларуская эміграцыя: падзякі дабрачыннаму фонду «Ethnic Voice of America» на чале з спадарыняй Ірынай Каляда-Сьмірной стаяць на шыкоўным двайным альбоме мэдыявальнай музыкі «Скарбы ліцьвінаў» гурта «Стары Ольса»; знакаміты наваполацкі поп-сьпявак Ален выдаў свой альбом «Толькі сон» пад брэндам яшчэ аднаго знакамітага спонсара – «Orsa-Romano Foundation».

Я асабіста памятаю спадарыню Алу Орса-Рамано яшчэ з канца 80-х, калі яна пасьля доўгіх дзесяцігодзьдзяў татальнай ізаляцыі роднай краіны ад вольнага сьвету прывезла ў Беларусь знакаміты танцавальны ансамбль «Васілёк» зь Нью-Ёрку. І вось на беларускі музычны рынак паступіў яшчэ адзін даволі прыкметны канцэптуальны прадукт, пазначаны брэндамі найбольш актыўнага на нацыянальнай ніве лэйблу «БМAgroup» і таго самага «Orsa-Romano Foundation» – альбом «Ігры багоў» гурта «Guda».

Толькі не кажыце, што вам цалкам невядомае гэтае імя. Калі вам нават не давялося слухаць папулярных зборнікаў беларускай мэдыевальнай (сярднявечнай) музыкі пад назвай «Легенды Вялікага Княства», дзе «Guda» рэгулярна абкатвае свае творчыя экспэрымэнты (а «Беларус» пісаў пра іх ня далей як у № 500 за верасень 2004 году), дык прынамсі супэрраскручаны трыб'ют-альбом «Personal Depeche» наўрад ці абыйшоў вашую ўвагу. Дык вось «Guda» прапісалася й там, дапамогшы гурту «Neuro Dubel» з выразнай адметнасьцю пераўвасобіць песьню «Адчуваю» брытанскага гурта «Depeche Mode».

Зрэшты, калектыў зусім не з кагорты так званых сэсійных музыкаў, якія славутыя толькі тым, што ім удаецца трапляць у прэстыжныя супольныя праекты. У 2002 годзе «Guda» ўдала дэбютавала сваім першым канцэптуальным альбомам «Архаічныя абрадавыя сьпевы». Нягледзячы на палахлівую сур'ёзнасьць назвы, прадукт вельмі імпэтна прыняла публіка, і менавіта моладзевая. Сёньня вы наўрад ці здолееце адшукаць у крамах той альбом, бо бяз спонсарскай падтрымкі наклад яго быў надзвычай сьціплым.

І вось чарговая праца гурта «Guda» – альбом «Ігры багоў». Што да назвы самога калектыву, дык ужо яна грунтоўна прадстаўляе сутнасьць ягонай творчасьці: з гісторыі вядома, што наш народ не заўсёды называўся беларусамі, былі й іншыя варыянты – ліцьвіны, крывічы, гуды. Як бачым, усе гэтыя найменьні цяпер сталі папулярнымі брэндамі музычнага рынку. Ну хто-ж ня ведае такія калектывы, як «Ліцьвіны», «Kriwi» і вось вам калі ласка й «Guda». На іхнім новым дыску прадстаўлены некалькі архаічных міталягічных сюжэтаў, што бытуюць на нашай зямлі, у якія арганічна ўплецены старадаўнія абрадавыя песьні. Такім чынам, мы ня проста слухаем пэўныя фолк-гіты, а праз грунтоўны спадарожны камэнтар можам іх больш глыбока асэнсаваць.

Удзельніцы гурту – дасьледчыцы традыцыйнай культурнай спадчыны беларусаў – імкнуцца таксама перадаць найбольш адметныя асаблівасьці вакальнай традыцыі розных рэгіёнаў Беларусі.

Распачынае праграму самы, бадай, глябальны, касмаганічны міт – легенда аб утварэньні самой зямлі. Тут і фрагмэнт паданьня пра князя Бая ды ягоных верных сабакаў – Стаўры й Гаўры, і даволі вядомая нават праз папулярныя інтэрпрэтацыі песьня пра Юр'ю ды Цмока:

Даўней жылі людзі – ня верылі Богу,
Ня верылі Богу, а верылі Цмоку,
Аддавалі Цмоку ў дзень па чалавеку.
Вось прыйшла чародка да нашага цара:
Адна была цурка – ды й та маладзенька.
Вось прывезьлі цурку да сіняга мора:
Буйны хвалі плешчуць, а Цмок выплывае...
Адкуль узяўся Юр'я, сьвятое Ягор'я,
Канём намагае, дзідай працінае,
Агіднага Цмока са сьвету зжывае...

Сюжэт песьні мае шматлікія паралелі ў міталёгіі іншых народаў (да прыкладу, міт пра Пэрсэя й Андрамэду ў грэкаў).

Юр'я (Сьвяты Юр'я, Георгі-пераможца) – увасабленьне жывой сілы прыроды й сьвята вясны, хрысьціянізаваны вобраз Ярылы. На думку адных дасьледчыкаў, Ярыла – адно з увасабленьняў грамоўніка (магчыма, сын), паводле іншых – сонечнае божышча. Грамоўнік і міт пра ягоную барацьбу з супраціўнікам – Вялесам-цмокам – стаіць у цэнтры індаэўрапэйскай міталёгіі. Супраціўнік грамоўніка знаходзіцца ўнізе – пад гарой, пад дрэвам, ля вады. Ягоныя ўладаньні – свойская жывёла й пашы – сымболь іншага сьвету (параўнаем агульнаіндаэўрапейскае ўяўленьне пра «той» сьвет як пра пашу, дзе пасьвіцца душы памерлых). У тэксьце міту ён паўстае ў выглядзе зьмеепадобнай істоты – цмока. Грамоўнік-жа знаходзіцца ўверсе – на вяршаліне дрэва, на небе, на гары альбо на скале. Ён перасьледуе свайго супраціўніка ды забівае яго, пасьля чаго пачынаецца пладаносны дождж з громам і маланкай. Гучаць песьні «А дзе ты Юр'я ўрасіўся» ў выкананьні Вольгі Емяльянчык, а таксама прадстаўленыя акапэльна – «Юр'я ўставай рана» і «Песенька мая хароша», якая выконвалася падчас абраду «Пахаваньне стралы».

Адна з яскравых старонак альбому «Ігры багоў» прысьвечана сьвяткаваньню Купальля. А распачынаецца яна чытаньнем ліста кардынала Пятра Дайлі (XIV ст.), у якім ён апавядае пра тагачасныя вераваньні ліцьвінаў: аб іхнім пакланеньні Сонцу-Сотвару, Ажывіцелю Сьвету, якому нашыя продкі прысьвячалі, як і рымляне, другі дзень пасьля пятніцы. Тэксты, якія выразна й па-мастацку зачытваюць Алена, Віктар і Ўладзя Каліноўскія, узятыя з працаў беларускіх этнолягаў і гісторыкаў культуры. У працяг тэмы гучаць яскравыя купальскія песьні: «Ды гарэла Купайло на гарэ», «Ішла Купалка сялом», «Сьвяты Яня, дзе дасюль быў», «Чырвоная ружа». Гэтыя творы – прыклад вельмі дасканалай працы гурта «Guda» па адраджэньню самых глыбінных пластоў традыцыйнага сьпеву. Бо ў самой ягонай падачы захаванае найгалаўнейшае ў народнай песьні – эмоцыі ды энергетыка, характэрныя для аўтэнтычных выканаўцаў. А вось у песьні «Гуляла сонейка» свой талент як салісткі зноў пацьвярджае Вольга Емяльянчык.

Міт пра Месяца й Сонца як пра нябесную сям'ю, гаспадара й гаспадыню, а таксама пра іхніх дзетак – зорак – разгортваецца ў песьнях «Ой, Месяцу, Месяцу, ды ўзыйдзі ранюсенька», «Зара мая, вячэрняя». Зьвязаны зь ім і так званы блізьнечы міт, паданьне пра лекавую расьліну браткі. У беларускіх купальскіх песьнях блізьнечая тэма – адна з самых яскравых. У пацьверджаньне гэтай тэзы прапануецца песьня «А на Купала на Яна»:

А на Купала на Яна
Дзевачка гора спазнала –
Яна двух хлопцаў любіла,
І двух сынкоў нарадзіла...

Заўсёдны клопат нашых продкаў – сямейны дабрабыт, які аберагае Спарыш. Гэтаму сюжэту старажытнай міталёгіі прысьвячаецца замова «Прыспары мне, Спарыш, у доме і ў полі, у гумне і ў двары...» ды песьня «Хадзіў Раю па вуліцы». Музычная частка альбому «Ігры багоў» завяршаецца песьняй «Пярун-Перуне», якая выконвалася падчас жніва, у самыя моцныя навальніцы.

Такім чынам, новы альбом гурта «Guda» ня проста знаёміць слухача з часам прызабытай фальклёрнай спадчынай, ня проста робіць гэта эмацыйна й пераканаўча, але й дазваляе сучасьнікам грунтоўна асэнсаваць мэту й значэньне кожнай песьні ў самых сакральных традыцыях нашых продкаў. Іншымі словамі, альбом шчыльней зьвязвае нас с продкамі.

***Вітаўт МАРТЫНЕНКА***

# Юрка ВІЦЬБІЧ – папулярызатар беларускай мінуўшчы

Сёлета 15 чэрвеня споўнілася 100 гадоў з дня нараджэньня Юркі Віцьбіча (1905-1975, сапр. Шчарбакоў), пісьменьніка і грамадзкага дзеяча беларускага замежжа. Віцьбіч быў адным з найбольш дзейных асобаў з другой хвалі беларускай эміграцыі ў Амэрыцы. Па словах знакамітага дасьледчыка беларускай эміграцыі Др. Вітаўта Кіпеля, галоўная заслуга Юркі Віцьбіча палягае ў тым, што ён аднаўляў беларускую мінуўшчыну, рабіў яе сапраўды нашай, у мастацкай форме і прыгожай літаратурна. "Мы расьлі фактычна без гісторыі, і Юрка Віцьбіч стаў пісьменьнікам гістарычным, аднаўляльнікам мінулага. Ён адраджаў мінуўшчыну як фундамант для сучаснай палітычнай нацыі. Віцьбічавы эсэ чыталіся з захапленьнем, і ягоная творчасьць была сапраўды папулярная. Ягоныя артыкулы ў "Бацькаўшчыне" чыталі ня толькі беларускія актывісты, але і беларусы-рабочыя, у Бэльгіі, Нямеччыне, Англіі, іх перадрукоўваліся на ратапрах, пераходзілі з рук у рукі. Гісторыя станавілася ўласнасьцю людзей, празь Віцьбіча асобы і падзеі мінуўшчыны прыходзілі да звычайнага беларуса, які на Бацькаўшчыне ня мог даведацца пра сваю нацыянальную гісторыю."

Віцьбіч быў пісьменьнікам і таленавітым папулярызатарам гісторыі. Безумоўна, у савецкай Беларусі свае зацікаўленьні й пагляды ён ня мог выказваць адкрыта і адпаведна ня меў той чытацкай аўдыторыі, якая зьявілася ў яго на эміграцыі сярод беларусаў у Заходняй Эўропе і ў Амэрыцы.

Уплыў Віцьбіча на гістарычную думку працягваецца: пад узьдзеяньнем ягонай кнігі «Антыбальшавіцкія паўстаньні на Беларусі» выйшла публікацыя «Антыбальшавіцкія паўстаньні на Магілёўшчыне», заснаваная на падзеях і матэр'ялах, што ня ведаў Віцьбіч.

Віцьбіч разумеў важнасьць сродкаў масавай інфармацыі. Ён выступаў на радыё, зьмяшчаў свае артыкулы ў разнастайных выданьнях. У прыватнасьці, Віцьбіч часта публікаваў свае артыкулы й рэакцыі на чужыя на беларускую і датычную тэматыку ў нью-ёрскай газэце "Новае Рускае Слова", і быў у добрых адносінах з яе рэдактарамі — Вайнбаўмам, Сядых. Ю. Віцьбіч кантактаваў з латыскімі журналістамі. Некалькі артыкулаў Віцьбіча ў перакладзе Ружанцова зьявіліся ў летувіскіх выданьнях. Моцныя сувязі Віцьбіч меў з украінскімі культурніцкімі дзеячамі ў Амэрыцы.

Як пісьменьнік Віцьбіч пачаў сваю дзейнасьць у 1920-я гады, належаў да групы "Узвышша" — групы літаратараў, што імкнулася да разьвіцьця і ўдасканаленьня новых стыляў і тэмаў у беларускай літаратуры і фактычна адкідала тагачасныя "пралетарскія" літаратурныя прынцыпы. У 1930-я гады Віцьбіч выдаў шэраг сваіх твораў у часапісах "Узвышша" і "Полымя рэвалюцыі", а ягоныя аповесьці "Сьмерць Ірмы Лаймінг" (1932) і "Формула супраціўленьня касьцей" (1937) выйшлі асобнымі кнігамі.

Увесь час Віцьбіч займаўся краязнаўчаю працаю, браў удзел у экспэдыцыях па выяўленьні помнікаў гісторыі й культуры Беларусі, і яму належыць заслуга адшуканьня магілы Паўлюкү Багрыма і высьвятленьне акалічнасьцяў жыцьця першага беларускага паэта 19-га стагодзьдзя. Падчас вайны Віцьбіч працягваў дзейнасьць па дасьледваньні культурнай спадчыны беларусаў. У 1944 годзе, трапіўшы ў Нямеччыну, Віцьбіч разам з паэткай Натальляй Арсеньневай стаў заснавальнікам літаратурнай суполкі "Шыпшына", у якой дэкляравалася адданасьць узвышэнскім прынцыпам.

Віцьбіч быў актыўны ў беларускім эміграцкім друку, заснаваў часапіс "Зьвіняць званы Сьвятой Сафіі", быў рэдактарам газэты "Беларускі голас", публікаваўся ў "Бацькаўшчыне", "Запісах", "Конаднях". На чужыне выйшлі ягоныя кнігі «Плыве з-пад Сьвятое гары Нёман» (1956), "Мы дойдзем" (1974, па-расейску), "Антыбальшавіцкія паўстаньні ў Беларусі" (1999).

Архіў Віцьбіча, што зьберагаецца ў Саўт Рывэры, зьмяшчае ў сабе ягоныя неапублікаваныя творы, і, напэўна, хавае адкрыцьці.

***Віталь ЗАЙКА***

# У краіне няспраўджаных мараў

## (эсэ)

**Сяржук СОКАЛАЎ-ВОЮШ**

Летась ва Ўшачах памёр мой, маладзейшы ад мяне на пару гадоў, сябра. Звычайны беларускі хлопец Валерка Кандзякоў. Апошні раз мы бачыліся на яго ных прысядзібных сотках, якія яны з жонкай мусілі абрабляць каб выжыць у краіне з найвышэйшым паказчыкам росту валавага прыбытку (ці чаго там яшчэ?) на душу насельніцтва. І гэта пры тым, што сталыя заробкі (яна – лекарка а ён – заўгас раённай лякарні) мусілі б і без таго забясьпечыць ім прыстойнае йснаваньне... Не забясьпечылі... Як, зрэшты, не забясьпечылі яго й згаданыя соткі, і сьвіньні ды куры ў хляве, і мільён разоў рапараваная-перарапараваная Валеркам "Лада", якую я пакінуў яму ад'яжджаючы ў ЗША.

Побач з бацькамі круцілася іхная маленькая дачушка. Колькі ёй тады было? Гады тры-чатыры. "Сама ўстала, сама апранулася, абула вялікія маміны боты й прыйшла, – сказаў Валерка, – а сын у хаце. Як заўсёды чытае".

Жончын родны, а сябраў прыняты за сына сямігадовы хлопчык – зацяты кніжнік. "Што зь яго будзе? Во, сядзем есьці, дык ён такія пытаньні задае, якія я й сам бы не прыдумаў".

Валерка добра гаварыў па-Беларуску. Народжаны ў расейскамоўным Наваполацку ён неяк здолеў не згубіць сваіх каранёў. Вядома, тое не было нейкай славутай нацыянальнай сьведамасьцю. Папросту аднойчы загаварыў на сваёй мове я, а ён, адзіны з маіх тагачасных сяброў, не адвярнуўся, не скрытыкаваў а нечаканa падтрымаў, як падтрымліваў і надалей. Раськідаць улёткі ва Ўшачах, прыйсьці на мітынг, распаўсюдзіць франтаўскія матар'ялы, дапамагчы ў перадвыбарчай агітацыі – заўсёды й найперш ён.

Мы сядзелі на кухні вялікай, купленай яшчэ ў лепшыя часы й збольшага дабудаванай самім Валеркам хаты, пакінуўшы не прывечанымі прывезеныя мной пляшкі й пілі самагонку, елі злоўленых ім карасёў, вырашчаныя ім бульбу ды гурочкі. Бялела на сподачку парэзанае на самаробнай, аздобленай Беларускай шніцурай стальніцы, сала.

Валеркава маці, цётка Ніна, як заўсёды ўзялася бараніць улюбёнага Рыгоравіча (па-валеркаваму – Шурку), згадваючы даўна ўжо экзатычныя пасьляваенныя гнілую бульбу-й хлеб зь лебядой. Мой бацька, цяпер нябожчык, у часе такіх размоваў казаў яшчэ й пра лапці. А вось ягоная маці, мая бабуля, на дух не пераносіла падобныя рэчавыя аргументы, уважаючы іх скрыўленым, амаль настальгічным замілаваньнем жабрачай мінуўшчынай. Яна памерла яшчэ за саветамі, крышачку недацягнуўшы да ста, крышачку недажыўшы да развалу імпэрыі, непасьпеўшы пэрсанальна ўзьненавідзець цяперашняга Шурку-адміністратара, але ненавідзячы якіх заўгодна калгасна-саўгасных кіраўнікоў.

"Я-ж усё гэта сваімі рукамі, мама, – азіраючыся навокал сказаў Валерка, – гэта-ж колькі-б я зарабіў, каб мог працаваць на сябе, на продаж! А паспрабуй! Так цісканунь падаткамі, што без штаноў застанешся". "Не астанешся," – адказала цётка Ніна, ды й зноў пачала пра ўлюбёную гнілую..., а пакольлі Валерка не маўчаў, урэшце, плюнула й пайшла спаць.

Мы засмалілі цыгаркі. Зь дзяцінства хворы на астму сябра зайшоўся ў страшэнным кашлі. "Кінуць не спрабаваў?" "Не, – закуруціў ён галавой і скончыўшы керхаць дадаў, – а для чаго? Не хачу я жыць, разумееш? Во толькі для малых... А так – не хачу. Сам бачыш як яно ўсё... Ты лепш раскажы як там у Празе".

Валеркава жонка – пецярбуржка. Яна ня любіць нашай трасянкі, і (бывае ж такое!) выступае за яе, бо ўшацкая трасянка таксама супраць Шуркі... Першая жонка сябра цудоўна гаварыла па-Беларуску, але, апынуўшыся ў ЗША, толькі па першым часе трымалася са сваімі. Разьвёўшыся з Валеркам выйшла замуж за нейкага паляка, легалізавалася, разьвялася йзноў, забрала з Ушачаў дачку й зьнікла з далягляду. Якая ўжо тут Беларушчына. Жыцьцё наладжваць трэба. "Прыяжджала з дачкой, – кажа Валерка, – але пагаварыць сам-на-сам не дала. Пабылі з тыдзень і зьехалі".

Той шлюб ня быў шчасьлівым ад самага пачатку. Ад самага пачатку ўсё йшло ня так, але потым неяк прыладзілася, прыцёрлася, прыцярпелася. "А памятаеш..." Так, я памятаю. Брэжнеўшчына. Брутальная савецчына. Змрок. Нацыянальны нігілізам. І раптам пасярод гэтай брыды тэлефон з Ушачаў. "Сяржук, мы тут ладзім КВН сярод пэдагогаў і выхавацеляў дзіцячых садкоў. Нашая каманда вырашыла ўсё зрабіць па-Беларуску. Памажы". Каманда ў якой была тая, першая Валеркава жонка, перамагла. Мяне запрасілі на баль перамогі. Была зіма й ішоў сьнег. Хутка ляцеў марозным гасьцінцам новенькі Валеркаў "Масквіч"... Таямнічa зіхцелі сьвечкі абапал люстэрка ў наўмысна прыцемненай вітальні ягонай кватэры... Грала музыка й цягнулі да сябе аквітнасьцю сталы ў прыбранай на Калядзы залі дзіцячага садку... Мы таньчылі, жартавалі, пад духмяныя вясковыя прысмакі напаўнялі кілішкі ды зноў таньчылі. Натхнёныя перамогай выхавацелькі размаўлялі па-свойму й праз укарункаваныя марозам шыбіны далі Бог было відаць, як асыпаюцца на зямлю зоркі...

"Шкадуеш?" "Не". "Бо?" "Паскудныя былі часы, – сумна ўсьміхаецца Валерка, – вы там, у Менску, захацелі іх зламіць і зламілі. І добра зрабілі. І паказалі як яно можа быць, пакуль не прыйшоў гэты"...

Ад'яжджаючы з Прагі я выпадкова дачуўся, што Валерка ў лякарні. Датэлефанавацца з-за мяжы ў Беларусь – заўсёды было праблемай, а ўжо ва Ўшачы... Затэлефанаваў сваёй сястры ў Наваполацак. "Не. Ня астма, не дыябэт? Хвароба называецца... зараз гляну... я запісала... Дылятацыйная кардыёміапатыя... Яны там шукалі нешта ў Інтэрнэце, але не знайшлі. Можа па-ангельску знойдзецца". "А як ім перадаць?" "Ня ведаю".

Інфармацыя знайшлася. На нейкім форуме з музыкай "Караоке" мільгануў інтэрнэт-насыл удзельніка з Ушачаў. Я напісаў і чалавек адгукнуўся! Адгукнуўся па-Беларуску. Паведаміў, што называецца ён Генадзь Лапіцкі, што гэта якраз ён і шукаў у сецiве хоць што-небудзь пра Валеркаву хваробу, але знайшлося няшмат, падзякаваў мне за клопаты пра сябра. Я папрасіў яго перадаць знойдзенае мной Валеркавай жонцы, але не паказваць самому хвораму, бо жыць яму заставалася лічаныя месяцы...

Ушачы мястэчка невялікае. Беларусь таксама не краіна-гігант. Як усе людзі ва Ўшачах, так і ўсе ў Беларусі адно аднаго ведаюць. Калі не пэрсанальна, дык праз іншых, калі не праз іншых, дык праз належнасьць да таго самага народу, праз агульны нацыянальны лёс, супольныя карані. Вось і трымаемся разам. А тыя, хто згубілі згаданыя спосабы сувязі, заўсёды могуць яе ўзнавіць, бо ніхто не замкнёны ад новых кантактаў.

Калі я толькі задумаў гэтае эсэ, у Інтэрнэце зьявілася паведамленьне пра сьмерць у швайцарскіх Альпах Беларуса Арсеня Скаруліса. Калі ў эсэ была пастаўленая апошняя кропка – з дому прыйшла сумная вестка пра сьмерць Анатоля Сыса. Адразу ж прыгадаліся Ігар Гермянчук, Алесь Асташонак, Мікола Стома, згадалася Глінішча – Наваполацкія могілкі, дзе пахаваны мой бацька. Пад час апошняга наведаньня ягонай магілы я прайшоўся між новых пахаваньняў. Колькі знаёмых! Колькі моладзі!..

"Гэта ж колькі б я... каб мог на сябе..."

Ці вы думаеце, што трэба маўкліва прымаць як належнае, калі ў краіне няспраўджаных мараў паміраюць маладзейшыя?

---

**Сардэчна віншуем шаноўнага Старшыню Галоўнай Управы Беларускага-Амэрыканскага Задзіночаньня сп. Антона ШУКЕЛОЙЦЯ зь 90-годзьдзем.**

*Рэдакцыя "Беларуса" і сябры Ўправы БАЗА*

---

*20 жніўня 2005 году ў Саўт Рывэры ў царкве Сьв. Еўфрасіньні Полацкай адбудзецца традыцыйны*

**Беларускі Фэстываль**

*Арганізатары запрашаюць усіх жадаючых.*

---

Шаноўныя суродзічы зь Беларусі,

хто цяпер жыве ў паўднёвай частцы Нью Джэрзі (*Ocean* і *Moumoth* counties, ваколіцы *Томс Рывэру* і *Фрыголду*), калі вы хацелі-б сустрэцца разам і пазнаёміцца, то далучайцеся да нашай сяброўскай вячэры, якая адбудзецца **22 ліпеня 2005 году а 7-й гадзіне вечара** ў ***Atlanta Bread*** кафэ (*1042 Cedar Bridge Avenue, Bricktown, NJ*).

З пытаньнямі кантактуйце рэдакцыю: *hazetabielarus@att.net*

---

***Газэта "БЕЛАРУС"***

*бясплатна надрукуе кароткія аб'явы некамэрцыйнага характару, віншаваньні, запрашэньні, спачуваньні ды інш.*

*Наконт разьмяшчэньня рэклямы кантактуйце рэдакцыю.*

---

НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД ГАЗЭТЫ "БЕЛАРУС" АХВЯРАВАЛІ:

| | |
|---|---|
| Праф. А. Баршчэўскі | 50 |
| Др. Н. Баршчэўская | 50 |
| Л. Брылеўская | 50 |
| Ю. Андрончык | 30 |
| Ю. Дзянісава | 30 |
| Г. Езавіт | 30 |
| А. Ермаковіч | 30 |
| К. Калесьнікава | 30 |
| Н. Кандрацкая | 30 |
| Г. Мазгавая | 30 |
| Ю. Мішук | 30 |
| В. Трапец | 30 |
| С. Будкевіч | 20 |
| У памяць А. і М. Грэбень | |
| Л. Брылеўская | 50 |

**Усім шчыры дзякуй!**

---

**БЕЛАРУС**

*Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце*

Выдае штомесячна:
*Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне*
Сусьветнае сеціва: *baza-belarus.org*

Падпіска $30 на год.
Чэкі выпісвайце на BIELARUS

**BIELARUS**

*Belarusan Newspaper in the Free World*

Published monthly by
*Belarusan American Ass'n, Inc.*
Subscription $30 yearly
Make checks payable to *BIELARUS*

Рэдагуе калегія.
Адказны рэдактар Марат КЛАКОЦКІ
Падпіска Сяргей ТРЫГУБОВІЧ

Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам ці ініцыяламі, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

Перадрук дазваляецца толькі пры ўмове зазначэньня крыніцы.



Адрас для допісаў і кантактаў:
*BIELARUS*
*P.O. Box 3225*
*Farmingdale, NY 11735*

E-mail:
*hazetabielarus@att.net*

Сусьветнае сеціва:
*www.bielarus.org*

ISSN 1054-9455

Адказнасьць за зьмест рэклямы нясе рэкламадаўца.